*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі

# БЮЛЕТЭНЬ
## ЦЭНТРАЛЬНАЙ ПАСЕЎНАЙ КАМІСІІ

№ 8 27 КРАСАВІКА № 8

МЕНСК 1933

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся

# БЮЛЕТЭНЬ
Цэнтральнай Пасеўнай Камісіі

№ 8
27 красавіка
1933 г.



## Ад рэдакцыі

БССР засеяла на 20 красавіка 27.690 гект. яравых—1,1 проц. пляну. Саўгасы засеялі 601 гект., калгасы—19.353 і аднаасобнікі—6.969 га. Параўнальна з мінулым годам засеяна ў 5 разоў больш. Аднак, ці можам мы прызнаць ход сяўбы па БССР здавальняючым?

Ні ў якім разе.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР была пастаўлена перад усімі партыйнымі і савецкімі арганізацыямі адказьнейшая задача—засеяць за 10 дзён з 15 па 25 красавіка 500 тысяч га аўса.

На 23 красавіка засеяна аўса 15.709 га—3,1 проц. пляну. Нават паўднёвыя раёны, дзе палявыя работы пачаліся ў першых лічбах красавіка, ня справіліся са сваёй задачай і засеялі на 23 красавіка толькі 14.244 га аўса—9,2 проц.

Гэтыя лічбы сыгналізуюць аб недапушчальным зацягваньні сяўбы яравых, асабліва аўса. Такія паўднёвыя раёны, як Старадарoскі і Чырвонапольскі амаль не пачыналі сеяць авёс. Буда-Кашалёўскі, Бабруйскі, Кармянскі, Рагачоўскі, Чачэрскі і Уваравіцкі раёны засеялі ўсяго ад 10 да 50 га аўса, 10 раёнаў цэнтральнай зоны таксама яшчэ не пачыналі сяўбы аўса. Па ўсёй зоне засеяна ўсяго 1.202 га—0,5 проц.

Дзе прычыны такіх ганебных тэмпаў?

Амаль усюды спасылаюцца на надвор'е і іншыя аб'ектыўныя прычыны. Але ці сапраўды ўся справа ў надвор'і?

Практыка перадавых калгасаў, якія з гонарам выканалі дырэктыву партыі і ўраду, паказвае, што справа не ў надвор'і, а ў людзях. Дзесяткі калгасаў, як „10 зьезд Саветаў", „Серп і Молат", імя Варашылава, „Чырвоны Кастрычнік" (Ельскі раён), „Чырвоны Будаўнік" (Слуцак), „Пяцігодка" (Чачэрскі), імя „Кастрычніцкай Рэвалюцыі" (Менскі раён) ужо скончылі сяўбу аўса. Многія калгасы скончылі сяўбу і іншых раньніх яравых. Гэтыя калгасы з першага-ж дня разгарнулі палявыя работы, правільна расставілі рабочую і цягавую сілу на полі, устанавілі цьвёрдую працоўную дысцыпліну, абвясьцілі рашучую барацьбу з прагуламі.

Аднак, ці ўсюды так аднесьліся да выкананьня важнейшай дырэктывы партыі?

Трэба проста сказаць, у многіх раёнах пачатак палявых работ быў прадастаўлен самацёку. Напрыклад, у Бабруйску раённыя арганізацыі, атрымаўшы тэлеграму ЦК і СНК, абмежаваліся тым, што спусьцілі гэту тэлеграму ў сельсаветы і ўсё. Таксама было і ў Рагачове і Жлобіне.

Між тым, з палёў ідуць трывожныя сыгналы. У калгасах Бабруйскага, Жлобінскага, Рагачоўскага, Магілеўскага і інш. раёнаў прагулы і спазьненьні сталі сыстэмай на палявых работах. З гультаямі і прагульшчыкамі не вядзецца рашучай барацьбы. У радзе месц гультаёў ставяць на адну дошку з лепшымі калгасьнікамі і гэтым патураюць гультаём (калгас „На варце", Жлобін). У калгасах Гомельскага раёну кулацкія агенты зьмяншаюць нормы высеву. У Бягомльскім раёне многія калгасы засеялі яравыя культуры ў аднавор. Такія вынікі першага тыдню масавай сяўбы—рэзультат стаўкі на самацёк, рэзультат недаацэнкі ролі пастаяннай вытворчай калгаснай брыгады ў пасьпя-

ховым правядзеньні веснавой сяўбы і ўзьняцьці ўраджайнасьці.

У многіх раёнах яшчэ і зараз працягваецца грубае ігнараваньне аднаасобнага сэктару. Гэта ў той час, калі аднаасобнікі павінны засеяць амаль 50 проц. яравога кліну. У Слуцкім, Рагачоўскім, Полацкім і радзе іншых раёнаў аднаасобнікам яшчэ не адведзена зямля.

Якія-ж практычныя вывады трэба зараз зрабіць, якія меры трэба ўжыць, каб неадкладна ліквідаваць адставаньне?

Усе сілы нашых партыйных арганізацый і перадавога калгаснага актыву трэба зараз кінуць на ўмацаваньне пастаяннай калгаснай брыгады, на правільную расстаноўку рабочай сілы як у калгасе, так і ў самай брыгадзе. Лепшых аратых, лепшых сейбітаў, вопытных калгасьнікаў—у брыгаду, у поле. Рашуча ўзмацнім працоўную дысцыпліну, зьнішчым кулацкую ўраўнілаўку. Даволі цацкацца з гультаямі, прагульшчыкамі—вон іх з калгасу.

У кожным калгасе і саўгасе, у кожнай брыгадзе, у кожнай працоўнай аднаасобнай гаспадарцы—узьнімем адказнасьць за будучы ўраджай.

Забясьпечыць своечасовае і добрае правядзеньне сяўбы па ўсіх працоўных аднаасобных гаспадарках—непасрэдная задача кожнай партарганізацыі. Больш клопатаў, больш канкрэтнай дапамогі канкрэтнаму аднаасобніку.

Мацней удар па кулаку і яго агентуры, зьнішчальны адпор кулацкім спробам сарваць сяўбу ў раньнія тэрміны. Вышэй сьцяг сацыялістычнага спаборніцтва на палёх першай вясны другой пяцігодкі.

Міжнароднае пралетарскае сьвята—дзень 1 Мая—сустрэнем рашучай перамогай на фронце пасеўнай, выкананьнем сяўбы ў тэрмін і высокай якасьці палявых работ.

## Веснавой сяўбе — выразнае партыйнае кіраўніцтва

# Аб рабоце партыйных ячэек калгасу „Пралетары“ Капыльскага раёну і калгасу імя Сталіна Слуцкага раёну

### Пастанова сакратарыяту ЦК КП(б)Б

Заслухаўшы даклад сакратароў ячэек калгасу „Пралетары“ Капыльскага раёну—т. Ламакіна і калгасу імя Сталіна Слуцкага раёну—т. Коршука і паведамленьне адказнага інструктара ЦК, абсьледваўшага работу гэтых ячэек, т. Каждана, ЦК КП(б)Б адзначае:

### Па ячэйцы калгасу „Пралетары“

1. Калгас „Пралетары“ арганізаваўся ў 1928 годзе. Усёй ворнай зямлі ў калгасе ёсьць 454 га, з гэтай колькасьці яравы клін складае 227 га. Ня гледзячы на тое, што ў калгасе ёсьць усяго 94 гаспадаркі, з іх значная колькасьць былых чырвонаармейцаў, а ячэйка аб'яднае 15 членаў і кандыдатаў партыі, з прычыны безгаспадарчасьці і адсутнасьці партыйнага кіраўніцтва, калгас панёс значныя страты ў часе малацьбы збожжавых. Замест наяўных трох малатарань, працавалі толькі дзьве. У калгасе згніло каля 300 пудоў бульбы і больш 2.000 пудоў бульбы разбазарана.

Адсутнасьць барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці прывяла да таго, што калгас „Пралетары“ на лепшых землях Капыльскага раёну атрымаў у 1932 г. толькі 6 цэнтн. жыта з га, менш, чым у суседніх калгасах з горшай зямлёй і ніжэй сярэдняй раённай ураджайнасьці.

У выніку гэтага аплата працадня ў калгасе выразілася ў 1 кгр. 76 гр. пры сярэдняй па раёне ў 2 кгр. 800 гр.

ЦК КП(б)Б таксама лічыць кіраўніцтва з боку партыйнай ячэйкі па веснавой сяўбе нездавальняючым. Хаця насеньнем калгас забясьпечан, аднак, яго захаваньне знаходзіцца ў нездавальняючым становішчы. Склад, дзе знаходзіцца насеньне, не адрамантаваны. Страха прадзіраўлена. Насеньне знаходзіцца ў брудным становішчы. Авёс як кармавы, так і насенны рассыпан на падлозе бяз усякай адгародкі. На 2 красавіка засталося яшчэ вывезьці на поле больш 800 вазоў гною. Няма добрага догляду коняй, наяўныя тры конюхі на 50 коняй працуюць неахайна. Коняй ня чысьцяць, подсьціл даюць адзін раз у 10 дзён. Фармальна ўсе коні прымацаваны да калгасьнікаў, а фактычна больш паловы калгасьнікаў гаспадарчых адносін да каня не праяўляюць. Камуніст Прахарэнка горш за ўсіх адносіцца да свайго каня.

ЦК КП(б)Б лічыць, што ячэйка не вядзе барацьбы за ўмацаваньне працоўнай дысцыпліны, супроць лодыраў і прагульшчыкаў. Горшыя прыклады працоўнай дысцыпліны паказваюць камуністы Варанцоў, Яўсюк, Прахарэнка, Фядотаў і інш., якія сыстэматычна спазьняюцца на работу пасьля абеду. Сакратар ячэйкі т. Ламакін ня ведае, чаму асобныя камуністы ня прыходзяць або спазьняюцца на работу. Ячэйка не прыцягнула гэтых камуністаў да адказнасьці, не правяла шырокай растлумачальнай работы сярод калгасьнікаў за ўмацаваньне працоўнай дысцыпліны.

ЦК лічыць зусім недапушчальным, што, ня гледзячы на наяўнасьць у дзьвёх брыгадах па тры камуністы, а ў аднэй брыгадзе—6 камуністаў, ячэйка не арганізавала партыйных груп і партыйных арганізатараў, не забясьпечыла паляводчую брыгаду сыстэматычным пар-

тыйным кіраўніцтвам. Ячэйка не разгарнула масавай палітычнай работы ў брыгадах, не прапрацавала адозвы ўсесаюзнага і ўсебеларускага зьездаў калгасьнікаў - ударнікаў. Сацыялістычнае спаборніцтва паміж брыгадамі і асобнымі калгасьнікамі не праводзіцца. Вытворчыя нарады ў брыгадах не працуюць.

Работа сярод жанчын у калгасе адсутнічае. Дэлегацкія сходы не працуюць. Прымацаваны для правядзеньня масавай работы сярод жанчын камуніст тав. Кнюшка гэту работу сарваў. Ячэйка не праводзіць работы сярод аднаасобнікаў. Прымацаваны да работы сярод аднаасобнікаў камуніст т. Фядотаў гэту работу зрывае.

ЦК адзначае, што пастановы ліпеньскага і кастрычніцкага пленумаў аб партыйна-масавай рабоце не атрымалі ніякага практычнага адлюстраваньня ў рабоце ячэйкі. Работы сярод кандыдатаў партыі і маладых камуністаў ячэйка не праводзіць. Арганізаваны партыйны гурток не працуе. Партыйныя дні праходзяць пры малой актыўнасьці камуністаў і беспартыйнага актыву. На сходах апрача выступленьняў старшыні і сакратара ячэйкі, актыўнасьць зусім невыстарчальная. З 15 камуністаў партыйную нагрузку нясуць толькі 6 чал. (работа ў ЛКСМ, работа сярод аднаасобнікаў, работа сярод жанчын), па сутнасьці і гэтай работы ніхто ня выконвае. Вялікім недахопам у рабоце ячэйкі зьяўляецца тое, што ні адзін з камуністаў ня мае партыйнай нагрузкі, зьвязанай непасрэдна з калгаснай вытворчасьцю.

ЦК адзначае, што ў выніку слабай пастаноўкі партыйна-выхаваўчай работы сярод камуністаў і адарванасьці бюро ячэйкі ад кожнага камуніста ў паасобку, за апошні час сталі больш частымі антыпартыйныя ўчынкі, недысцыплінаванасьць, п'янства, адсюль і няпрыкладнасьць у рабоце. Так, напрыклад, за апошнія два месяцы пры аднолькавай рабоце камуністы Тарасевіч, Агейка, Варанцоў маюць у сярэднім па 27-30 працадзён, а беспартыйныя калгасьнікі Скрэбка, Ярмалінскі і інш. выпрацавалі 58 працадзён.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што ячэйка калгасу „Пралетары“ нездавальняюча правяла падрыхтоўчую работу да сяўбы і ў першыя-ж дні выхаду ў поле нормы выпрацоўкі ва ўсіх трох брыгадах калгасу дылёка адсталі ад устаноўленых.

ЦК КП(б)Б прапануе:

1. Ячэйцы тэрмінова ўлічыць як указаныя вышэй недахопы, так і ўрокі першых дзён выхаду ў поле. Хутка выправіць усе гэтыя памылкі і дабіцца ў рабоце па ворыве, баранаваньні і сяўбе такіх тэмпаў, якія-б забясьпечылі поўнасьцю якасна добрае і ў тэрмін выкананьне пляну сяўбы.

2. У пастановах студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) і пленуму ЦК КП(б)Б, у пастанове ЦК УсеКП(б) ад 22 сакавіка 1933 г. аб рабоце ячэйкі „Искра“ і Вперед“, у прамовах т. Сталіна аб рабоце на вёсцы і на першым усесаюзным зьезьдзе калгасьнікаў-ударнікаў дана разгорнутая праграма дзейнасьці для кожнай партарганізацыі ў яе рабоце на вёсцы. У адпаведнасьці з гэтым трэба ячэйцы калгасу „Пралетары“ тэрмінова перабудаваць работу зрабіўшы асноўным зьместам работы ячэйкі пытаньні вытворчага жыцьця калгасу, сканцэнтраваўшы работу ў вытворчых брыгадах.

3. ЦК абавязвае ячэйку скончыць не пазьней, чым у трохдзенны тэрмін усю падрыхтоўку да сяўбы (ачыстка насеньня, рамонт інвэнтару, вывазка гною), праверыць разьбіўку брыгад і прымацаваньне іх да вытворчых вучасткаў, устанаўленьне палёў севазвароту. Ячэйка павінна дабіцца, каб кожны калгасьнік і калгасьніца ведалі дакладна сваё месца і работу ў брыгадзе, нормы выпрацоўкі і ацэнку ў працаднёх. Арганізаваць улік работы і прыёмку работ, каб гэта стала сапраўдным сродкам барацьбы за павышэньне якасьці работы, за працоўную дысцыпліну, супроць лодыраў, рвачоў і разгільдзяеў.

Устанавіць кантроль за захаваньнем норм высеву, папярэджваючы раскраданьне насеньня. Дабіцца, каб у якасьці брыгадзіраў, так і на вядучых работах у брыгадах (аратыя, сейбіты і г. д.) былі пастаўлены правераныя, актыўныя калгасьнікі.

Ячэйцы, у прыватнасьці, неабходна аказваць больш увагі і дапамогі ў рабоце брыгадзіраў т. т. Дзюбэ і Арабею.

4. Павысіць авангардную ролю камуніста ў вытворчым жыцьці калгасу і масава-палітычнай рабоце, абавязаць

кожнага камуніста паказаць узоры работы ў доглядзе каня, інвэнтару, барацьбе за ўраджайнасьць, у рабоце на полі, арганізацыі сацспаборніцтва і ўдарніцтва, працоўнай дысцыпліны.

Разгледзець на агульным сходзе партыйнай ячэйкі пытаньні аб нездавальняючым доглядзе каня з боку члена ячэйкі Прахарэнка і сыстэматычным спазьненьнем на работу членаў ячэйкі Варанцова, Аўсюка і інш., папярэдзіўшы іх аб тым, што яны павінны тэрмінова выправіць і пачаць па бальшавіцку працаваць, ці паставіць сябе па-за радамі партыі.

5. На тэрмін веснавой сяўбы ўсю масава-палітычную работу перанесьці ў поле — брыгаду (арганізацыя сацыялістычнага спаборніцтва ў брыгадах, вытворчыя нарады ў канцы рабочага дня для абгаварэньня і абмеркаваньня выкрытых недахопаў у рабоце за дзень, чырвоныя і чорныя дошкі, палявая газэта, калектыўная чытка газэт у перапынках ад работы і г. д.).

6. Прапанаваць ячэйцы правесьці далейшую ачыстку калгасу ад кулацкіх элемэнтаў, апіраючыся на калгасны актыў і ўсю масу калгасьнікаў.

### Па ячэйцы калгасу імя Сталіна

Калгас імя Сталіна налічвае 52 гаспадаркі, калгас зьяўляецца сьвінагадоўчым, мае фэрму з 150 штук, уся зямля складае 485 га. З гэтай колькасьці 165 га яравога кліну. Калгас арганізаваўся ў 1931 годзе. У выніку барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці калгас мае значны эфэкт па ўраджайнасьці асобных культур у параўнаньні з 1931 годам, напрыклад: па жыту—з 5,60 цэнтн. з га да 6,66 цэнтн. з га ў 1932 годзе, па аўсу—з 5,20 цэнт. з га да 8,40 цэнтн. з га, па ячмені—з 9 цэнтн. да 14,50 цэнтн. з га ў 1932 годзе.

Ячэйка арганізавала барацьбу за аўладаньне агратэхнічнымі ведамі, арганізаваўшы вячэрнюю школу, дзе займаюцца 40 чал. актыву калгасу. Калгас дабіўся павялічэньня кошту працадня амаль у тры разы ў параўнаньні з 1931 годам. Па збожжавых культурах з 1.250 грам да 3 кгр. 800 грам на працадзень у 1932 годзе—вышэй сярэдняй нормы па Слуцкім раёне. Ячэйка з 6 чалавек у пэрыяд загатовак разгарнула вялікую работу, у выніку чаго калгас раней тэрміну выканаў загатоўчыя пляны па ўсіх культурах. Калгас мае вытворчы плян, у гэтым годзе ў асноўным ўстанаўляецца шасьціпалёвы севазварот. Паляводчыя брыгады арганізацыйна замацаваны, у брыгадах разьмеркаваны абавязкі кожнага калгасьніка. Ссыпка насеньня па калгасе праведзена поўнасьцю па ўсіх культурах. Інвэнтар адрамантаван поўнасьцю, коні ў калгасе сярэдняй сытасьці і ў поўнай меры падрыхтаваны да палявых работ.

Сканцэнтраваўшы ўвагу, у адрозьненьне ад ячэйкі калгасу „Пралетары“, на пытаньнях вытворчага жыцьця, ячэйка калгасу імя Сталіна аслабіла ўнутры-партыйную работу. Ячэйка ня зьбіралася за апошнія два месяцы ні разу.

Важнейшае рашэньне партыі па барацьбе з прагуламі, з кулацкай засьмечанасьцю, пытаньні сяўбы, ураджайнасьці на ячэйцы не прапрацаваны. Не праводзіцца сыстэматычнай работы з калгасным актывам, не замацаван актыў (20 чал.), які згуртаваўся вакол ячэйкі ў пэрыяд збожжазагатовак.

Цэнтр цяжару масава палітычнай работы не пяранесен у брыгады, у брыгадах не прапрацаваны такія пытаньні, як становішча коняй, працоўнай дысцыпліны, пастаноўка гэтых пытаньняў абмяжоўвалася выключна на агульна-калгасным сходзе. За апошні час ячэйка не правярае, як паасобныя камуністы выконваюць партыйныя нагрузкі.

Канстатуючы, што ячэйка калгасу імя Сталіна мае посьпехі ў сваёй рабоце, мае вопыт барацьбы за ўмацаваньне калгасу, але за апошні час значна аслабіла сваё партыйнае кіраўніцтва калгасам і мае рад недахопаў, ЦК прапануе:

1. Лічачы, што асноўнай арганізацыйнай формай партыйнага будаўніцтва на вёсцы зьяўляецца калгасная ячэйка, ЦК абавязвае райком зьнішчыць арганізацыйную блытаніну ў адносінах ячэйкі (сакратар сельячэйкі зьяўляецца адначасова сакратаром калгаснай ячэйкі), не дапускаючы ў далейшым яе падмены і затушоўваньня. Асноўнай задачай ячэйкі зьяўляецца мабілізацыя ўсіх калгасьнікаў на лепшае правядзеньне сяўбы. Улічваючы, што калгас імя Сталіна мае ўсе магчымасьці прыступіць да звышранньяй сяўбы, ЦК лічыць, што ў правядзеньні ўсёй работы па сяўбе і ўмацаваньні калгасу ячэйка павінна аргані-

заваць калгасны актыў, весьці з ім сыстэматычную работу з тым, каб на ўсіх рашаючых вучастках калгасу (брыгады, СТФ) мець асноўнае ядро калгасьнікаў-ударнікаў, як апору ячэйкі ў барацьбе за ўмацаваньне калгасу. Выкарыстаць увесь актыў ячэйкі, ЛКСМ і настаўнікаў па арганізацыі працы з калгасным актывам.

2. ЦК абавязвае ячэйку больш практычна і штодзенна аказваць дапамогу і кіраўніцтва партыйным арганізатарам т. т. Швэду, Караваю, Масьленьніку, не дапускаючы такога становішча, калі партыйныя арганізатары адарваны ад работы ячэйкі. Улічваючы, што брыгадзіры т.т. Мінчыня і Наумовіч, адданыя беспартыйныя калгасьнікі, яшчэ ня маюць вы-старчальнага вопыту работы,—ЦК абавязвае ячэйку аказаць ім усямерную практычную дапамогу ў рабоце.

ЦК канстатуе, што Копыльскі і Слуцкі райкомы КП(б)Б не аказваюць выстарчальнай практычнай дапамогі ў штодзеннай рабоце ячэек. ЦК абавязвае РК узмацніць работу калгасных ячэек на аснове пастановы сьнежаньскага пленуму ЦК аб партмасавай рабоце. Іменна зараз, у пэрыяд непасрэднага выхаду ў поле, райкомы, палітаддзелы МТС павінны ўсю сваю ўвагу сканцэнтраваць на аказаньні дапамогі калгасным ячэйкам, устанавіць справаздачнасьць і адказнасьць членаў бюро і работнікаў райкомаў, прымацаваных да ячэек. Усе партыйныя ячэйкі павінны ўлічыць урок ячэек, правераных ЦК КП(б)Б, з тым, каб не дапускаць у сваёй рабоце недахопаў, якія ёсьць у ячэйцы калгасу „Пралетары“ і імя Сталіна.

ЦК асабліва падкрэсьлівае, што ігнараваньне работы з аднаасобнікамі з боку партарганізацыі і кожнага камуніста ў паасобку зьяўляецца справай, якая дапамагае клясаваму ворагу ў барацьбе супроць нас. Кожная партыйная арганізацыя, кожны камуніст павінен памятаць, што „аднаасобнікі ёсьць, іх нельга скінуць з рахунку, бо яны зьяўляюцца заўтрашнімі калгасьнікамі“ (Сталін).

ЦК абавязвае ўсе партячэйкі ахапіць сваім кіраўніцтвам і ўплывам кожную аднаасобную гаспадарку, каб не засталося ні аднаго кавалка зямлі ў аднаасобным сэктары, не засеянага ў веснавую сяўбу.

ЦК патрабуе ад усіх сельскіх партыйных арганізацый, ад кожнага камуніста на сяле кіруючай ролі і асабістага прыкладу ў справе барацьбы за пасьпяховае выкананьне сяўбы. Бальшавікі Беларусі павінны ўлічваць, што калгасы і аднаасобнікі БССР павінны з 15 па 25 красавіка засеяць 500.000 га аўса. Роля кожнага камуніста ў гэтай справе, як роўна і ва ўсёй пасеўкампаніі, заключаецца ў тым, каб на аснове асабістага прыкладу ў рабоце пацягнуць за сабой увесь актыў, усіх беспартыйных калгасьнікаў і аднаасобнікаў. „Сіла бальшавікоў, сіла камуністаў заключаецца ў тым, што яны ўмеюць акружаць нашу партыю мільёнамі беспартыйнага актыву“ (Сталін).

ЦК папярэджвае, што баяздольнасьць ячэйкі ў цэлым і кожнага камуніста ў паасобку будзе расцэньвацца па выніках сяўбы, барацьбе за гаспадарча-палітычнае ўмацаваньне калгасаў, працоўную дысцыпліну і г. д., па тым, як ячэйка і кожны камуніст у паасобку на справе вядуць барацьбу за генэральную лінію партыі.

# Вытворчыя пляны і калгасная брыгада— асноўнае зьвяно ў барацьбе за пасьпяховую калгасную сяўбу

# Аб арганізацыі сталых вытворчых брыгад у калгасах „Інтэрнацыянал“ Гомельскага р., „Набат“ Талачынскага р.

**Пастанова бюро ЦК КП(б)Б**

Абсьледваньне справы арганізацыі сталых вытворчых брыгад у калгасах „Інтэрнацыянал“ і „Набат“, утворанае ЦК КП(б)Б выявіла наступнае:

I.

**Калгас „Інтэрнацыянал“ Гомельскага раёну (аб'яднае 84 гаспадаркі).** Калгас пасьпяхова правёў 1932 гаспадарчы год, мае партыйнае ядро ў 11 чал. і камсамольскае—у 18 чал., поўнасьцю засыпаў і адсартаваў насенныя фонды, добра падабраў брыгадзіраў: з 6 брыгадзіраў 2 члены партыі, астатнія да ўступленьня ў калгас—беднякі, як работнікі, карыстающца аўтарытэтам.

Ня гледзячы на маючыяся магчымасьці, калгас вельмі нездавальняюча вядзе падрыхтоўку да вясновай сяўбы, бо:

а) увесь працаздольны склад калгасу яшчэ не разьмяркован на брыгады. Лічачыяся ў паляводчых брыгадах людзі залічаны, акрамя таго, для работы па жывёлагадоўле, будаўніцтву і наадварот;

б) фуражныя насенныя фонды не разьмяркованы па брыгадах, інвэнтар поўнасьцю не падрыхтаван, збруя не падагнана да кожнага каня;

в) ня вылучаны вытворчыя вучасткі для брыгад на ўвесь тэрмін севазвароту, культуры па брыгадах разьмяркованы мэханічна-пароўну. Адсутнічаюць гадавыя вытворчыя заданьні ў брыгадзе, нормы выпрацоўкі не абгаварваліся, тэрміны сяўбы не даведзены да брыгад;

г) устаноўлена няправільная сыстэма аплаты брыгадзіраў (дабаўленьне чвэрткі працадня за брыгадзірства). Няма ўвязкі работы брыгад з работай трактарнага атраду МТС;

ЦК прапануе ячэйцы калгасу „Інтэрнацыянал“ правесьці наступнае:

1. Замацаваць з вясны 1933 году за кожнай брыгадай вытворчы вучастак на ўвесь час севазвароту, выходзячы з задачы, забясьпечыць найбольш адказныя вучасткі сяўбы (апрацоўка глебы, сяўба) вопытнымі праверанымі калгасьнікамі.

2. Разьмеркаваць фуражныя фанды па брыгадах, улічваючы колькасьць і ўпітанасьць коняй у кожнай з іх. Разьмеркаваць насенныя фанды па брыгадах, выходзячы з заданьняў і ўстаноўленых норм высева.

3 Вызначыць дакладныя тэрміны правядзеньня ўсіх палявых работ, зьвязаных з севам, з тым, каб забясьпечыць сканчэньне сяўбы ў максымальна сжатыя тэрміны, у прыватнасьці ў асноўным закончыць сяўбу аўса да 25-га красавіка.

4. Кіруючыся ўстаноўленымі НКЗ прынятымі нормамі і расцэнкамі, абгаварыць на брыгадных нарадах і ўстанавіць цьвёрдыя нормы выпрацоўкі, выходзячы з канкрэтных умоў калгасу, увязаўшы барацьбу за высокія нормы выпрацоўкі з барацьбой за якасныя паказальнікі выкананьня па кожнаму віду работ.

Адмяніць уведзеную калгасам няправільную сыстэму аплаты працы брыгадзіраў. Аплату брыгадзіраў вытвараць

у дакладнай суадпаведнасьці з пастановай НКЗ СССР ад 28 лютага і НКЗБ ад 4-III-33 г.

II.

**Калгас „Набат“ Талочынскага раёну (аб‘яднае 34 гаспадаркі).** Па заяве раённых арганізацый, калгас зьяўляецца адным з лепшых па арганізацыі вытворчых брыгад. У калгасе арганізацыя сталых вытворчых брыгад к моманту абсьледваньня ня была праведзена:

а) Брыгады існуюць толькі на паперы, само разьмеркаваньне калгасьнікаў між двума брыгадамі вытварана мэханічна пароўну.

б) Вытворчыя ўчасткі ня вылучаны і не замацаваны за брыгадамі, заданьне па пасеву таксама разьмеркавана мэханічна-пароўну, пры чым пасеў агародніх культур, караньплодаў і паравое поле не прымацаваны ні да воднай брыгады;

в) Цягавая сіла, інвэнтар, насенныя і фуражныя фанды не разьмеркаваны і ня выдадзены брыгадам, коні і інвэнтар не замацаваны за асобнымі калгасьнікамі;

г) вытворчы плян калгасу па асобных культурах прадугледжвае зьніжэньне ўраджайнасьці: па ячменю фактычны ўраджай у 1932 г. атрыман—13,5 цнт. з га, а па пляну 1933 г. прадугледжана—9,5 цнт. з га, па сілосных культурах з аднаго га ў 1932 г. атрымана 600 цнт., па пляну 1933 г. намечана 500 цнт.;

д) гадавыя вытворчыя заданьні па брыгадах ня складзены, брыгады і калгасьнікі ня ведаюць аб тэрмінах сева і іншых работ. Нормы выпрацоўкі па калгасу не абгавораны і ня прыняты. Калгас ня ведае, якія работы будуць выкананы МТС, бо апошняя не давяла свайго пляну да калгасу;

е) з боку заг. вытворчай часткай МТС Аўцюшкава па пытаньню арганізацыі брыгад на агульным сходзе калгасьнікаў дадзена шкодніцкая ўстаноўка аб арганізацыі адной брыгады з лепшых калгасьнікаў, а другой брыгады— з лодыраў.

ЦК прапануе ячэйцы калгасу „Набат“:

1. Пераглядзець вытворчы плян у часьці паказчыкаў па ўраджайнасьці, забясьпечыўшы далейшы рост ураджайнасьці па ўсіх культурах супроць 1932 г.

2. Безадкладна замацаваць цягавую сілу і інвэнтар за брыгадамі і асобнымі калгасьнікамі на ўвесь год.

3. Пры камплектаваньні брыгад паставіць асноўны ўпор на такі падбор у брыгадзе асноўнага ядра правераных, дысцыплінаваных калгасьнікаў-ударнікаў, які-бы забясьпечыў высокую працоўную дысцыпліну ўсёй брыгады ў цэлым.

4. Паравое поле, землі пад агароднімі культурамі і караньплодамі ўключыць у брыгадныя зямельныя вучасткі.

5. За яўна шкодніцкую ўстаноўку па пытаньню арганізацыі брыгад загадчыка вытворчай часткай МТС Аўцюшкава зьняць з работы і прыцягнуць да судовай адказнасьці.

III.

1. ЦК лічыць абсалютна нецярпімым, зрываючым посьпех вясновай сяўбы мэханічны падыход да пытаньняў арганізацыі брыгад, прымацаваньня да іх вытворчых вучасткаў, папярова-бюракратычны падыход да разьмеркаваньня цягавай сілы і інвэнтару па брыгадах і прымацаваньне іх да кожнага калгасьніка.

2. ЦК прапануе пад пэрсанальную адказнасьць сакратароў РК КП(б)Б і старшынь РВК: а) безадкладна зьнішчыць усе недахопы ў арганізацыі сталых вытворчых брыгад у калгасах, забясьпечыўшы стварэньне і перабудову брыгад на падставе пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 9 сакавіка г. г. з тым, каб да пачатку сяўбы ва ўсіх калгасах былі створаны сапраўды моцныя вытворчыя калгасныя брыгады;

б) пераглядзець пляны з мэтай забясьпечыць далейшы рост ураджайнасьці па ўсіх культурах. Прыцягваць да стражайшай адказнасьці ўсіх вінаватых у такім пляніраваньні, якое арыентуе калгасы на зьніжэньне ўраджайнасьці супроць дасягнутых вынікаў 1932 г.

3. Выходзячы з вопыту раёнаў ранняй сяўбы, ЦК прапануе:

а) дабіцца таго, каб кожная брыгада, кожны калгасьнік брыгады загадзя ведалі севазварот калгасу, зямельны вучастак брыгады і тыя работы, якія павінны быць на ім вытвараны;

б) пры пахаці і баранаваньні пускаць ўперад лепшых пахараў і баранаваль-

шчыкаў з тым, каб па іх раўняліся астатнія калгасьнікі і брыгады;

в) загадзя разьбіць брыгады на зьвеньні. Арганізаваць работу зьвеньняў і асобных калгасьнікаў на падставе сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва;

г) стварыць ў брыгадах партыйна-камсамольскае ядро, пакідаючы на арганізацыйна-кіраўнічай рабоце калгасу мінімальна неабходную колькасьць камуністаў і камсамольцаў.

4. ЦК прапануе МТС, пад адказнасьць дырэктароў, безадкладна давесьці плян работы вытворчых вучасткаў МТС да кожнага абслугоўваемага ім калгасу і ўзяць пад свой нагляд справу арганізацыі вытворчых брыгад у калгасах і ўвязку іх работы з трактарнымі атрадамі.

# Аб ходзе складаньня вытворчых плянаў і вытворчых брыгад па Шклоўскаму, Менскаму, Аршанскаму і Талачынскаму раёнах

## Пастанова ЦК КП(б)Б

Праверка выкананьня пастановы ЦК і СНК аб складаньні вытворчых плянаў у калгасах і вытворчых брыгадах па Шклоўскаму, Менскаму, Аршанскаму і Талачынскаму раёнах паказала, што РК, РВК, Райза, МТС, сельпарт. ячэйкі і с-с гэтых раёнаў не дааценілі важнейшага значэньня гэтых мерапрыемстваў у справе падрыхтоўкі і пасьпяховага правядзеньня вясновай пасеўкампаніі і недастаткова зразумелі паказаньні ЦК і СНК аб тым, што „Асноўным рашаючым зьвяном у справе ўзьняцьця ўраджайнасьці, узмацненьня сацпрацоўнай дысцыпліны, палітычнага і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, зьяўляецца пастаянная вытворчая брыгада“.

Зусім недастаткова разгорнута масавая работа вакол гэтых рашэньняў ЦК і СНК, не мабілізаваны шырокія калгасныя масы на іх выкананьне.

У выніку гэтага ня выкананы пастановы ЦК і СНК аб сканчэньні работы па складаньні вытворчых плянаў і арганізацыі пастаянных брыгад да 25 сакавіка 1933 г.

Поўнае адсутнічаньне кіраўніцтва з боку РК, РВК, МТС работай па складаньні вытворчых плянаў і арганізацыі брыгад у калгасах. Партыйныя і савецкія раённыя арганізацыі зусім ня ведаюць, як праходзіць гэта работа ў калгасах.

### Па Шклоўскаму раёну

У радзе калгасаў маюць месца грубейшыя памылкі і скрыўленьні дырэктыў па арганізацыі брыгад і складаньню вытворчых плянаў. Пра складаньні вытворчых плянаў запраэктавана зусім нізкая ўраджайнасьць. Напрыклад, у прыгарадным калгасе „Прожектор“ запраэктавана ўраджайнасьць па ільнавалакну 1,2 ц. з 1 га, па жыту 6 ц. з га У калгасе „Воля“ па ільнавалакну—1,1 ц. з 1 га, у калгасе „Новые Слижи“—ільнавалакна—1,5 ц., аўсу—4 ц., пшаніцы—4 ц. з га.

Замест устаноўленых урадам скарочаных тэрмінаў правядзеньня вясновага севу, у паасобных калгасах па вытворчаму пляну намячаюцца надзвычайна расьцягнутыя тэрміны, як напрыклад, па калгасу „Урожай“ тэрмін сканчэньня севу намечан 10 чэрвеня г. г.

У вытворчых плянах ва многіх калгасах не намечаны агратэхнічныя мерапрыемствы па падвышэньні ўраджайнасьці і не прадугледжаны мерапрыемствы па правядзеньні пярвічнай апрацоўкі ільну.

МТС не давялі да калгасаў і брыгад пляны работ трактараў, дадатковыя згоды паміж МТС і калгасамі не заключаны (калгасы „Профинтерн“, „Путиловец“ і імя Валадарскага).

Наліцо скажэньн і ўпабудаваньні брыгад, арганізуюцца мужчынскія і асобна

аночыя спэцыялізаваныя брыгады па аасобных культурах і дробныя брыады ў складзе 6—10 чал. (калгасы Красный Октябрь", „Прожектор" і Путиловец").

Ні ў адным калгасе ня ўведзены севазвароты—ня выдзелены брыгадам вытворчыя зямельныя вучасткі і не даны брыгадам гадавыя заданьні.

Сельпарт. ячэйкі і сельсаветы, а таксама і раённыя арганізацыі ня кіруюць складаньнем вытворчых плянаў і арганізацыяй брыгад, а наадварот лічаць, што гэта справа іх не датычыцца (Зарэчна-Шклоўскі і Рыжкоўскі с-с).

Складзеныя калгасамі і прысланыя ў РайЗА і МТС вытворчыя пляны не праваяраюцца, а памылкі і скажэньні, якія маюцца ў іх, не выпраўляюцца.

### Па Менскаму раёну

Складзеныя калгасамі і прысланыя ў Горза 29 вытворчных плянаў не праверaны і не зацьверджаны.

Атрыманыя Горза 26-га сакавіка г. г. брашуры з прыкладнымі нормамі выпрацоўкі да 5/IV г. г. ня былі разасланы па усіх калгасах. У радзе калгасаў у вытворчых плянах запраэктавана паніжаная супроць кантрольных заданьняў ураджайнасьць (калгасы „Чырвоны Спэцыяліст", „Чырвоны Ударнік") і расьцягнуты тэрміны севу да 27-33 дзён (калгасы імя Фалько, „Дружба", „Ударнік" і інш.).

1-й МТС (дырэктар Шэлег) праштампаваны пасланыя калгасамі вытворчыя пляны, у якіх дапушчаны грубейшыя скажэньні ў выглядзе паніжанай ураджайнасьці і расьцягнутыя тэрміны севу.

У калгасе „Ударнік" Каладзішчанскага с-с арганізаваны дробныя брыгады па 11—18 чал.

### Па Аршанскаму раёну

РК, РВК, Райза і МТС работай па складаньню вытворчых плянаў і арганізацыі брыгад ня кіруюць. Спэцыяльны інструктаж старшынь і рахункаводаў калгасаў па гэтых пытаньнях не праводзіўся,

Ня гледзячы на тое, што ў раёне па розных установах маецца ўсяго 45 аграспэцыялістаў на 27/III, з 270 калгасаў складзены вытворчыя пляны былі толькі ў 32-х калгасах.

Па даных Райза ў калгасах 4-х с/с лічыліся складзенымі вытворчыя пляны ва ўсіх калгасах, а пры праверцы аказалася, што ні ў адным з калгасаў гэтага с/с пляны ня складзены. Мабілізаваныя 21/III г. г. работнікі для дапамогі калгасам для складаньня вытворчых плянаў да 29/III не выяжджалі ў калгасы. Шэфскія арганізацыі ніякай дапамогі калгасам у правядзеньні гэтай работы не аказалі (Аршанскі ільнозавод, Вышэйшая калгасная школа).

У радзе калгасаў арганізаваны вытворчыя брыгады мэханічна, без давядзеньня вытворчых заданьняў; нормы выпрацоўкі на 1933 год не прапрацованы ці вельмі зьніжаны супроць прыкладных норм Наркамзему, як напрыклад: пахата на лёгкай глебе—0,4 га, баранаваньне „Зіг-Заг" у два сьляды—2 га (калгас „Чырвоны Усход", „На страже", „Ленинские всходы").

### Па Талачынскаму раёну

Райза і МТС ня ведаюць колькі складзена вытворчых плянаў, па калгасах раёну.

Ні адзін з прысланых у Райза і МТС вытворчых плянаў, складзеных калгасамі—Райза і МТС не зацьверджаны.

У калгасе „Голашава" па вытворчаму пляну зьменшана вытворчае заданьне па разьвіцьцю рабочай жывёлы, замест устаноўленага раённага заданьня па пагалоўю коняй на канец году ў колькасьці 28 галоў, па пляну намечана 16 галоў.

Маюцца факты арганізацыі надзвычайна грамоздкіх брыгад звыш 80-ці чал. (калгас „Октябрь").

Ні ў адным з 7-мі абсьледваных калгасаў ня выдзелены брыгадам коні, збруя і інвэнтар і не замацаваны за асобнымі калгасьнікамі ўнутры брыгад.

ЦК указывае РК, РВК, Райза і МТС Шклоўскага, Менскага, Аршанскага, Талачынскага раёнаў на іх бязьдзейнасьць у справе арганізацыі і кіраўніцтва пытаньнямі ўнутрыкалгаснага плянаваньня і арганізацыі працы ў калгасе, а таксама на адсутнасьць завостранай барацьбы з кулацкім уплывам пры складаньні вытворчых плянаў.

ЦК канстатуе, што ў радзе месц не зразумелі ўказаньня т. Сталіна, дадзенага ім у сваёй прамове на Пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б) „Аб рабоце на

вёсцы"—аб тым, што „Партыя ўжо ня можа зараз абмежавацца асобнымі актамі ўмяшацельства ў працэсы с.-гасп. разьвіцьця. Яна павінна зараз узяць у свае рукі кіраўніцтва калгасамі, прыняць на сябе адказнасьць за работу і дапамогу калгасьнікам весьці сваю гаспадарку ўперад на падставе даных навукі і тэхнікі".

ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Прапанаваць НКЗему БССР, Шклоўскаму, Менскаму, Аршанскаму і Талачынскаму РК КП(б)Б адмяніць ня правільна складзеныя ў вышэйпералічаных калгасах вытворчыя пляны і арганізаваныя няправільна брыгады, выправіўшы іх у суадпаведнасьці з дырэктывамі ЦК і СНК, а таксама накласьці спагнаньне на тых работнікаў Райза і МТС, якія дапусьцілі гэтыя скрыўленьні.

2. За адсутнасьць кіраўніцтва і дапушчэньне грубейшых скрыўленьняў дырэктыў ЦК і СНК аб арганізацыі брыгад і складаньне вытворчых плянаў,—перадаць справу ў ЦКК аб партыйнасьці зьнятага з работы дырэктара Шклоўскай МТС т. Зелянкоўскага. Паставіць на від за бязьдзейнасьць сакратару Шклоўскага РК КП(б)Б т. Кіштымаву і старшыні РВК т. Мінчонак. Абвясьціць вымову загадчыку Шклоўскага Райза т. Буйвалаву. За адсутнасьць кіраўніцтва работай па складаньні вытворчых плянаў і арганізацыі брыгад, нескарыстаньне маючыхся ў раёне аграспэцыялістаў для дапамогі калгасам у гэтых пытаньнях,—паставіць на від сакратару Аршанскага РК КП(б)Б т. Чарнышову і старшыні РВК т. Валасевічу, а заг. Аршанскім Райза т. Жылінко, сыстэматычна зрываўшага справу кіраўніцтва калгасным будаўніцтвам—з работы зьняць.

3. За поўную адсутнасьць кіраўніцтва работай па складаньні вытворчых плянаў і арганізацыі пастаянных брыгад у калгасах,—за дапушчэньне скажэньняў дырэктыў ЦК і СНК па гэтых пытаньнях, невыкананьне у тэрмін дырэктыў ЦК і СНК, ня глядзячы на поўную магчымасьць сваечасовага і поўнага іх выкананьня, пры наліччы навуковых устаноў і вялікай колькасьці мабілізаваных спэцыялістаў,—заг. Менскага Горза т. Якубовічу абвясьціць суровую вымову і папярэдзіць, што калі ён у бліжэйшую дэкаду не дабʻецца рашучага пералому ў рабоце, да яго будуць прыменены больш суровыя меры партспагнаньня.

Дырэктару 1-й Менскай МТС т. Шэлегу за адсутнасьць кіраўніцтва складаньнем вытворчых плянаў і арганізацыі брыгад і мэханічнае штампаваньне складзеных калгасамі вытворчых плянаў—абвясьціць суровую вымову.

4. Прызнаючы зусім нездавальняючым становішча з складаньнем вытворчых плянаў і арганізацыяй брыгад у большасьці раёнаў БССР, — прапанаваць НКЗему, усім ГК, РВК, МТС, сельпарт ячэйкам і сельсаветам неадкладна разгарнуць работу па складаньні вытворчых плянаў і арганізацыі брыгад у калгасах так, каб скончыць гэту работу да 20-га красавіка.

Мабілізаваць для дапамогі калгасам у ўвядзеньні севазваротаў, складаньні вытворчых плянаў і арганізацыі брыгад ня менш 150 спэцыялістаў з цэнтральных устаноў і навукова-дасьледчых інстытутаў.

Адзначыць абсалютна нездавальняючую работу Наркамзему і Трактарацэнтраў па кіраўніцтву работай МТС у справе складаньня калгасных вытворчых плянаў. Прапанаваць т. т. Залескаму, Пушчыну, Грабенчыку і Дубоўскаму наладзіць штодзённае апэрацыйнае кіраўніцтва гэтым важнейшым вучасткам падрыхтоўкі да пасеўнай.

5. Усім РК і РВК неадкладна пераключыць усіх спэцыялістаў раённых устаноў на работу па ўвядзеньні севазваротаў, складаньню вытворчых плянаў і арганізацыі брыгад. РК КП(б)Б неадкладна ўзяць гэту работу пад свой непасрэдны нагляд, выдзяліўшы і замацаваўшы за групамі калгасаў спэцыяльных упаўнаважаных для кіраўніцтва гэтай работай з ліку раённага партыйнага актыву.

6. Абавязаць рэдакцыі газэт „Зьвязда" „Калгасьнік Беларусі", зьмясьціць у бліжэйшыя дні разгорнутую крытыку дапушчаных калгасамі памылак у складаньні вытворчых плянаў і арганізацыі брыгад, а таксама з паказаньнем леп-

шых прыкладаў правільнай арганізацыі вытворчых брыгад і складаньня вытворчых плянаў у калгасах.

7. ЦК прапануе ўсім РК, РВК, Райза, МТС, старшыням с/с і калгасаў улічыць памылкі і недахопы абсьледваных раёнаў, дабіваючыся таго, каб да пачатку севу кожны калгас быў-бы ўзброены вытворчым плянам, прапрацаваным пры ўдзеле ўсіх калгасьнікаў, вытворчым плянам, прадугледжваючым падвышэньне ўраджайнасьці. Да пачатку севу кожны калгас, дзе павінны быць арганізаваны брыгады, меў-бы вытворчыя брыгады з цьвёрда замацаванымі ўчасткамі, інвэнтаром, цягавай сілай, з чоткай расстаноўкай сіл у брыгадах, памятуючы, што калгасны плян і правільна арганізаваныя брыгады—гэта рашаючыя і важнейшыя ўмовы пасьпяховага правядзеньня севу і падвышэньня ўраджайнасьці.

# Аб нядобраякасным і шкодніцкім рамонце трактараў і плугоў Лепельскай МТМ

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 20/IV-1933 г.

Заслухаўшы даклад камісіі ЦК—т. т. Чундзерава і Селіванава, лічыць устаноўленым, што пры наяўнасьці добра абсталяванай майстэрні, лішку рабсілы, нязначнай колькасьці паступіўшых заказаў—110 трактараў і матораў і 38 трактарных плугоў, Лепельская МТМ і МТС, рапартаваўшыя (т. т. Будуроў, Матусевіч, Казлоў, Гарбацэвіч, Кацаў) перад Цэнтрапасеўкомам аб сканчэньні рамонту на 1 сакавіка г. г., фактычна на 1 красавіка г. г., г. зн. праз месяц пасьля падачы рапарту і правядзеньня прэміяваньня ўдарнікаў за „пасьпяховае сканчэньне рамонтнай кампаніі“ — ня выканана, па якасьці і колькасьці пляну рамонту—15 трактараў і матораў, звыш 30 плугоў, аказаліся зусім не агледжанымі сявяркі, бульбасажалкі і інш. пасеўныя машыны.

ЦК і СНК адзначаюць, што ў сьвятле выяўленых фактаў заіржаўліваньня і прастойваньня каштоўных варштатаў,—псаваньне дынамамашыны МТМ і матораў Бягомльскай МТС, шкодніцкая разьбіўка ў часе рамонту трактарных блёкаў, калёс, трактарных плугоў, знаходжаньне ў адрамантаваным трактары зубіла, прабойніку, кавалка разцы (работа брыгадзіраў Хаванскага, Буевіча, Паланевіча, прасоўшчыкаў Аўтух, Радчанка, трактарыстаў-рабочых Сельмашонка, Мішніна, каваля Мацюша); непрыгоднасьць да працы адпраўленых пасьля рамонту на вытворчыя вучасткі МТС трактараў, адсутнасьць аўтаматаў—усё гэта сьведчыць аб наяўнасьці абязьлічкі, безгаспадарчасьці, адсутнасьці элемэнтарнага тэхнагляду ў рамонце апошніх і патураньня разбураючай працы кулацка-шкодніцкіх элемэнтаў з боку трыкутніку МТМ і МТС.

З боку загадчыка Райза тав. Юдзіна, як члена камісіі па прыёмцы трактараў з МТМ у МТС дапушчана побач з трыкутнікам МТМ і МТС, штампаваньне актаў без праверкі якасьці рамонту трактараў, а райпракурор тав. Астаповіч ня выканаў дырэктывы Цэнтрапасеўкому і прадпісаньня пракуратуры Рэспублікі аб расьсьледваньні і прыцягненьні вінаватых у очкаўціратэльстве, ашуканстве партыі і ўраду і шкодніцтве ў рамонце трактараў.

Адзначыць, што раённыя партыйна-савецкія арганізацыі РК КП(б)Б, РКК і РВК з прычыны павярхоўнага ўнікненьня ў справу рамонту трактараў, да прыезду камісіі ЦК ня поўнасьцю здолелі ўскрыць вышэй адзначаныя факты очкаўціратэльства, ашуканства, сабатажу і шкодніцтва ў рамонце трактараў і плугоў, што зьяўляецца вынікам недастатковай перабудовы імі работы ў напрамку штодзеннага канкрэтна-апэрацыйнага кіраўніцтва тэхнічна ўзброенай вытворчасьцю МТМ, МТС і калгасаў раёну.

Выходзячы з гэтага, ЦК КП(б) і СНК БССР пастанаўляюць:

1. Дырэктара Лепельскай МТС тав. Будунова і мэханіка МТМ тав. Собалева за очкаўціратэльства, простае ашуканства партыі і ўраду аб гатоўнасьці трактарнага парку, прэміяваньне, дзякуючы праяўленьням клясавай сьлепаты—гультаёў і шкоднікаў—зьняць з работы і перадаць справу ў Парткалегію ЦКК КП(б)Б.

2. Былому ўпаўнаважанаму ЦК КП(б)Б па Лепельскай МТМ, які замест барацьбы за якасьць праяўляў павярхоўнасьць і бязьдзейнасьць у рамонце трактараў, чым садзейнічаў очкаўціра-цельству і ашуканству перад партыяй і ўрадам аб гатоўнасьці трактарнага парку МТС да сяўбы—абвясьціць суровую вымову з папярэджаньнем.

3. За праявы павярхоўнасьці і нядбайнасьці, у выніку чаго, будучы членам камісіі, штампаваў акты прыёмкі з МТМ у МТС недабраякасна і шкодніцкі адрамантаваных трактараў—загадчыку Лепельскага Райза тав. Рузіну абвясьціць суровую вымову.

4. За невыкананьне прапановы Цэнтрапасеўкому аб рассьледваньні расхлябанасьці, очкаўцірацельства і ашуканства Лепельскай МТМ у рамонце матораў Бягомльскай МТС і за невыкананьне простага прадпісаньня пракурора Рэспублікі аб арышту выкрытых сабатажнікаў і шкоднікаў у МТМ—пракурора Лепельскага раёну тав. Астановіча з работы зьняць з перадачай справы аб яго партыйнасьці Парткалегіі ЦКК.

5. Прыняць да ведама пастанову Бюро Лепельскага РК і Прэзыдыуму РКК КП(б)Б—аб роспуску Бюро ячэйкі КП(б)Б і рабачкому МТМ і МТС, зьняцьці з работы сакратара ячэйкі Казлова, старшыні рабачкому Гарбацэвіча.

У сувязі з удзелам Казлова і Гарбацэвіча ў складаньні очкаўцірацельскіх зводак аб гатоўнасьці трактарнага парку і прэміяваньні гультаёў і шкоднікаў МТМ прасіць ЦКК КП(б)Б перагледзець пастанову Лепельскага РК і РКК КП(б)Б аб правільнасьці застаўленьня Казлова і Гарбацэвіча ў радох партыі.

6. Паказаць сакратару Лепельскага РК КП(б)Б тав. Хіжынкаву і старшыні РКК тав. Закоркіну на адсутнасьць з іх боку належнага апэрацыйнага кіраўніцтва і кантролю ў працы МТМ і МТС.

Прапанаваць ім, на прыкладзе гэтай пастановы ЦК і СНК—неадкладна мабілізаваць усю раённую партыйна-камсамольскую арганізацыю, прафсаюзы і гаспадарчыя ўстановы на ліквідацыю допушчаных памылак і сапраўды бальшавіцкае правядзеньне веснавой сяўбы кожным калгасам, кожнай вёскай і ў цэлым сельсаветамі і раёнамі.

7. Прыняць да ведама, што раённымі арганізацыямі прыняты меры да прасячэньня выяўленага сабатажу і шкодніцтва ў МТМ і на аснове мабілізацыі рабочых мас паўторны рамонт пашкоджаных трактараў скончан.

Прапанаваць трыкутніку МТМ і МТС РК і РКК-РСІ забясьпечыць к 20 красавіка г. г. поўнае заканчэньне рамонту астатніх с/г машын і інвэнтару раёну.

8. У сувязі з выяўленымі фактамі няпрыгоднасьці значнай часткі аўтаматаў да трактарных плугоў АТ—8 і АД—8, прапанаваць усім трактарацэнтрам, трэстам і с.-г. аб'яднаньням БКС на працягу 3-х дзён выявіць наяўнасьць гэтых аўтаматаў і неадкладна забясьпечыць імі, а таксама аўтаматамі сыстэмы Эрдмана ўсе МТС, саўгасы, калгасы і каапгасы. Нам. Наркамземляробства тав. Рэвінскаму і Ўпаўнаркамсаўгасаў па БССР тав. Жолудаву прасачыць за выкананьнем гэтай пастановы з боку сваіх сыстэм.

9. Гэту пастанову апублікаваць у друку.

# Аб якасьці рамонту трактараў

## Пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б

Адзначыць, што дырэктывы ЦК і СНК аб усеагульнай праверцы якасьці рамонту трактараў і гатоўнасьці трактарнага парку да веснавой сяўбы ў вызначаны тэрмін—да 10 красавіка—ня выканана.

Праведзена праверка 41 МТС з агульнай колькасьцю трактараў 1023, з якіх у выніку праверкі аказалася 971 зусім гатовыя да веснавой сяўбы, 40 трактараў знаходзяцца яшчэ ў рамонце.

СНК і ЦК канстатуюць, што ня гледзячы на рад канкрэтных дырэктыў з боку ЦК і СНК па гэтым пытаньні, асабліва сваечасовым сканчэньні рамонту,—на якасьць рамонту, на захоўваньне машын паасобныя раёны—Шклоў,

Сянно, Бешанковічы — ня толькі не зьвярнулі сур'ёзнай увагі, але і да гэтага часу ня скончылі рамонту. Сеньненская МТС з агульнага ліку 35 трактараў на 13 красавіка яшчэ ня скончыла капітальнага рамонту 4 трактараў, а на час прыезду камісіі—1 красавіка —амаль усе трактары патрабавалі дадатковага дробнага рамонту.

На Бешанковіцкай МТС на 9 красавіка з агульнага ліку 29 трактараў было гатовых толькі 9 штук і на сёнешні дзень трактарны парк цалкам не гатоў. Па Шклоўскай МТС на 10 красавіка адрамантаваны 34 трактары з 40.

Большая частка праверанных трактараў знаходзілася ў брудным стане, што яшчэ раз сьведчыць аб нядбайных адносінах і недаацэнцы трактарнага парку з боку асобных кіраўнікоў МТС, асабліва Шклоўскай, Сеньненскай, Бешанковіцкай.

Пераважная частка РК і РВК і кіраўніцтваў машына-трактарных станцый не зьвярнулі тэй выключнай ўвагі на рамонт, ня было пільнасьці, ня ўдумваліся ва ўсе дэталі ходу рамонту, у выніку чаго пры праверцы камісіяй выяўлен рад дэфэктаў, недахват дробных частак, з прычыны чаго шмат трактараў не маглі быць капітальна адрамантаваны і пушчаны ў эксплёатацыю, а ў паасобных МТС, як у Гомелі, Полацку, у часе рамонту было праяўлена шкодніцтва.

У выніку папярэдняй праверкі складу трактарыстаў на 30 МТС з агульнай колькасьці 2.594 трактарыстаў зьнята 114 сацыяльна-чужых элемэнтаў, 267 гультаёў і асоб, якія неахайна адносіліся да трактараў. З агульнага ліку 2.594 трактарыстаў аказалася слаба тэхнічна падрыхтаваных 409 чалавек. Усё гэта зьяўляецца вынікам самацёку, адсутнасьці выстарчальнай клясавай пільнасьці, адсутнасьці ачысткі апарату МТС, МТМ ад клясава-варожых элемэнтаў.

Выходзячы з гэтага, СНК і ЦК пастанаўляюць:

а) Прапанаваць сакратаром РК, дырэктаром МТС, упаўнаважаным Наркамзему Хойніцкай, Жыткавіцкай, Бешанковіцкай, Плешчаніцкай, Аршанскай, Бягомльскай, Крычаўскай, Путчынскай, Церахоўскай, Гарадоцкай, Сіроцінскай, Расонскай, Сураскай, Горацкай, Дубровенскай і Лепельскай зараз-жа скончыць праверку.

Абавязаць дырэктароў МТС Лагойскай, Слуцкай, Старадароскай, Полацкай, Чашніцкай, Чавускай, Мсьціслаўскай, Асьвейскай, Сеньненскай скончыць рамонт не пазьней трохдзённага тэрміну.

Абавязаць дырэктароў МТС увесьці, як правіла, капітальную праверку і ачыстку кожнага трактара кожныя 5 дзён. Катэгарычна забараніць усім дырэктаром МТС, саўгасаў пускаць на палі трактары, якія маюць тыя ці іншыя дэфэкты, да поўнага зьнішчэньня гэтых дэфэктаў.

Абавязаць трактарацэнтры сачыць за правільнай эксплёатацыяй трактарнага і прычэпнага інвэнтару.

Прапанаваць НКЗ, трактарацэнтрам і Наркамсаўгасаў стварыць пэўны запас запасных частак, якія хутка псуюцца, забясьпечыўшы тым самым бязупынную работу ўсяго трактарнага парку.

Папярэдзіць дырэктароў МТС і саўгасаў, што за кожны трактар, які выйдзе са строю з-за нядбайных адносін, яны нясуць пэрсанальную адказнасьць. Сакратаром РК і старшыням РВК даручыць прыцягваць вінаватых да суровай адказнасьці.

Даручыць ЦКК-РСІ расьследваць факты выхаду са строю трактараў пасьля рамонту ў Чэрыкаўскай МТС.

## Саветы, сэкцыі і дэпутацкія групы, уключайцеся ва ўсесаюзны конкурс саветаў на лепшае правядзеньне сяўбы

# Аб усесаюзным конкурсе сельсаветаў на лепшае правядзеньне веснавой пасеўнай кампаніі

**Пастанова Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Бел. ССР**

1. На падставе пастановы прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР ад 27 сакавіка 1933 г. аб правядзеньні ўсесаюзнага конкурсу сельсаветаў на лепшае правядзеньне веснавой пасеўнай кампаніі, прапанаваць усім РВК і саветам прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні конкурсу.

2. Прапанаваць як цэнтральнаму, так і мясцоваму друку разгарнуць кампанію вакол пастановы прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР ад 27 сакавіка 1933 г., шырока асьвятляючы работу саветаў па падрыхтоўцы і правядзеньні веснавой сяўбы.

3. Усю апэрацыйную работу па правядзеньні ўсесаюзнага конкурсу і кіраўніцтва гэтай работай ускласьці на аргінструктарскі аддзел прэзыдыуму ЦВК БССР.

Прапанаваць аргінструктарскаму аддзелу неадкладна пасьля атрыманьня ўмоў Усесаюзнага конкурсу шырока папулярызаваць гэтыя ўмовы, давёўшы да ведама кожнага РВК, сельсавету, сэкцыі і кожнага члена савету.

4. Стварыць рэспубліканскі фонд БССР для прэміяваньня лепшых сельсаветаў у суме 10.000 руб.

Прапанаваць аргінструктарскаму аддзелу ўстанавіць суму узносаў ад асобных наркаматаў (Наркамзем, Наркамфін, упаўнаркамсаўгасаў, Белкаапсаюзу) і ўнесьці гэтыя прапановы на зацьвярджэньне наступнага пасяджэньня сакратарыяту ЦВК.

5. Улічваючы, што ў мінулай кампаніі—у конкурсе перадавых сельскіх саветаў у 1932 г. ня ўсе РВК і саветы прымалі ўдзел, прапанаваць старшыням РВК і саветаў пад іх пэрсанальную адказнасьць забясьпечыць шырокае разгортваньне масавай работы вакол пастановы ЦВК СССР аб усесаюзным конкурсе на лепшае правядзеньне веснавой сяўбы.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **М. Гнілякевіч.**

# Аб ходзе абмену аўса

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР

ЦК і СНК канстатуюць, што тэмпы абмену аўса настолькі нездавальняючыя, што ставяць пад яўную пагрозу сваечасовы засеў аўса. На 11 красавіка 1933 году з намечаных да абмену 12.000 тон абменена менш 4.000.

ЦК і СНК адзначаюць недапушчальную расхлябанасьць у абмене аўса Бабруйскага, Аршанскага, Гомельскага, Мазырскага раёнаў, якія, маючы авёс непасрэдна на базах Загатзбожжа, арганізавалі абмен толькі 15-30 проц. да пляну.

ЦК і СНК асабліва ганебнай лічаць работу Чырвонапольскага РК і РВК (сакратар Лапацін, старшыня РВК Кірэяў), Прапойскага (сакратар Кацман, старшыня РВК Семашка) і Чавускага (сакратар РК Бягун, старшыня РВК Адамчук), не арганізаваўшых да гэтага часу абмену ні аднаго цэнтнера аўса.

ЦК і СНК катэгарычна прапануюць увесь абмен аўса скончыць у трохдзенны тэрмін, устанавіўшы ў кожным раёне выразны каляндарны плян абмену для кожнага калгасу, устанавіўшы кругла-сутачную работу складу Загатзбожжа.

ЦК і СНК папярэджваюць усе РК і РВК, і перш за ўсё адзначаныя ў гэтай пастанове, што ў кожным выпадку, калі тэмпы аўса будуць зрывацца з-за таго, што раён поўнасьцю не правёў абменнай апэрацыі, ЦК і СНК будуць самым строгім чынам караць вінаватых, ня гледзячы на асобы.

Цэнтральны Камітэт і СНК асабліва папярэджваюць Бабруйскі, Аршанскі, Магілеўскі, Бешанковіцкі, Быхаўскі, Бялыніцкі, Горацкі, Сеньненскі, Шклоўскі, Касьцюковіцкі, Дзяржынскі, Лепельскі, Лёзьнянскі, Полацкі, Пухавіцкі раёны, што на гэтых раёнах, як вядучых, рашаючых раёнах па засеву аўса (кожны з іх мае больш 10 тысяч га засеву аўса), ляжыць асаблівая адказнасьць за хуткі абмен аўса і сваечасовы завоз насеньня аўса на вучасткі.

# Аб ходзе падрыхтоўкі аднаасобных гаспадарак да веснавой сяўбы

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР па дакладу НК Земляробства

Савет Народных Камісараў БССР адзначае, што падрыхтоўка да веснавой сяўбы па аднаасобным сэктары ідзе зусім нездавальняюча. Па даных 69 раёнаў на 5 красавіка па аднаасобных гаспадарках лічыцца засыпанага насеньня па выданых імі расьпісках: па збожжавых—на 61,4 проц. (у тым ліку аўса 61,4 проц.), па ільну—74 проц., па бульбе—66,3 проц. Засыпка страхавых фондаў ня скончана (па збожжавых—76,4 проц., па ільну—73,4 проц., па каноплі—47,1 проц., па бульбе—20 проц.). Ачышчана насеньня збожжавых культур усяго толькі 21,5 проц., ільну—16,9 проц. Рамонт с.-г. інвэнтару ня скончан. Аб становішчы цягавай сілы ў аднаасобнікаў зьвестак у НК Земляробства зусім няма.

Усё гэта сьведчыць аб яўнай недаацэнцы з боку зямельных органаў і РВК аднаасобнага сэктару ў пасеўнай кампаніі бягучага году, які складае па пасеўнай плошчы да 48 проц., у выніку чаго ня было адпаведнага кіраўніцтва

падрыхтоўкай аднаасобнікаў да веснавой сяўбы як з боку НК Земляробства, так і раённых выканаўчых камітэтаў. Пры давядзеньні плянаў сяўбы да паасобных гаспадарак, атрыманьні насенных расьпісак і пры праверцы фактычнай наяўнасьці насеньня былі выпадкі сухога адміністрацыйнага націску замест правільна пастаўленай растлумачальнай грамадзкай работы.

**Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:**

1. Прыняць да ведама заяву тав. Рачыцкага, што зараз улік насенных фондаў аднаасобных гаспадарак ужо наладжан.

Загадчыкам зямельных аддзелаў: Бешанковіцкага—тав. Гараўцу, Дзяржынскага—тав. Забалотцу, Крычаўскага—тав. Калпасу, Буда-Кашалеўскага—тав. Завадоўскаму, Нараўлянскага—тав. Вайцэховічу, Камарынскага—тав. Кострме, якія да сёнешняга дня ня далі зьвестак аб забясьпечаньні аднаасобных гаспадарак насеньнем, абвясьціць вымову.

2. Абавязаць НК Земляробства, пад адказнасьць тав. Рэвінскага, і раённыя выканаўчыя камітэты, пад асабістую адказнасьць старшынь:

а) Выкарыстаць дні, якія засталіся да пачатку масавай сяўбы, для сканчэньня аднаасобнымі гаспадаркамі ўсіх падрыхтоўчых мерапрыемстваў па сяўбе.

б) арганізаваць праверку давядзеньня пасеўных плянаў да аднаасобных гаспадарак і дабіцца выкананьня ўсіх аграмерапрыемстваў, зьвязаных з павышэньнем ураджайнасьці;

в) неадкладна давесьці абавязковыя аграправілы да кожнай аднаасобнай гаспадаркі і за невыкананьне іх працягваць вінаватых да адказнасьці;

г) кожнаму саўгасу і калгасу паставіць, як абавязак, аказаньне максымальнай дапамогі аднаасобным гаспадаркам у правядзеньні веснавой сяўбы (ачыстка насеньня, пратручваньне, дапамога інвэнтаром і г. д.), і гэтым садзейнічаць уцягненьню аднаасобнікаў у калгас;

д) устанавіць па аднаасобным сэктары справаздачнасьць па ўсіх мерапрыемствах і ў тыя-ж тэрміны, як для калгасаў і саўгасаў.

3. Абавязаць РВК і сельсаветы шырока разгарнуць растлумачальную работу па папулярызацыі апошніх пастаноў партыі і ўраду аб загатоўках і здачы дзяржаве сельска-гаспадарчай прадукцыі, памятаючы, што ад посьпехаў гэтай работы і ад наладжваньня канкрэтнага кіраўніцтва з боку РВК і сельсаветаў пасеўнай кампаніяй ва ўсіх сэктарох будзе залежыць і поўнае правядзеньне пасеўнай кампаніі ў аднаасобным сэктары.

Старшыня СНК БССР **Н. Галадзед.**

Кіраўнік Справамі
СНК БССР **С. Кандыбовіч.**

# Аб падрыхтаванасьці прыгарадных гаспадарак да масавага разгортваньня сяўбы

**Пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б ад 21/IV -33г.**

1. СНК і ЦК устанаўляюць, што, ня гледзячы на пастанову ЦК КП(б)Б ад 28 лютага 1933 г. аб ходзе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы у прыгарадных гаспадарках і пастанову ЦК і СНК ад 19 сакавіка 1933 году аб веснавой пладагароднай кампаніі 1933 году,—Белкаапсаюз, прамысловыя наркаматы, асабліва Наркамлёгпрам і Наркамцяжпрам і падпарадкаваныя ім аб'яднаньні, трыкутнікі прадпрыемстваў і каапгасаў не прынялі сапраўдных мер, забясьпечваючых бальшавіцкае правядзеньне сяўбы ў прыгарадных гаспадарках. Рад каапгасаў, асабліва гарадоў Віцебску, Барысава і Магілева, не правялі паказаных у гэтых пастановах канкрэтных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да сяўбы, чым паставілі пад пагрозу своечасовае разгортваньне масавай сяўбы у сваіх гаспадарках.

2. СНК і ЦК падкрэсліваюць, што безадказныя адносіны раду каапэрацыйных, гаспадарчых, прафсаюзных, са-

вецкіх і партыйных арганізацый да правядзеньня канкрэтных мерапрыемстваў, якія павінны забясьпечыць павышэньне ўраджайнасьці (вываз угнаеньняў, мінэральных угнаеньняў, ачыстка насеньня, падрыхтоўка цягавай сілы і г. д.), сьведчыць аб тым, што яны не зразумелі таго, што ў бальшавіцкую сяўбу гэтага году неабходна дабіцца ня толькі стопроцантнага выкананьня намечанага пляну сяўбы па ўсіх культурах, але, што асабліва важна, дабіцца максымальнага ўзьняцьця ўраджайнасьці.

СНК і ЦК пастанаўляюць:

1. Абавязаць Белкаапсаюз (т. Шлейфэра), трыкутнікі прадпрыемстваў і каапгасаў неадкладна разгарнуць масавую сяўбу ў каапгасах з такім разьлікам, каб скончыць сяўбу аўса не пазьней 27 красавіка 1933 г., усіх іншых збожжавых —5-га мая г. г. Бульбу і раньнюю і позьнюю)—10 мая, прычым да 1-га мая засеяць ня менш 50 проц., у тым ліку ўсю раньнюю; моркву—1-га мая.

Па ўсіх іншых гародніх культурах правесьці і скончыць усе палявыя работы (ворыва, дыскаваньне, баранаваньне і г. д.) да 10 мая і адначасова падрыхтаваць адпаведную колькасьць рассады да забесьпячэньня да гэтага тэрміну магчымасьці масавай рассадкі гэтых культур на палі.

2. Абавязаць дырэктароў каапгасаў, у адпаведнасьці з тэрмінамі, устаноўленымі ў п. 1, удасканаліць рабочыя каляндарныя пляны правядзеньня сяўбы, ў тым ліку пачатак і сканчэньне сяўбы па кожнай культуры і вучастку.

3. Абавязаць дырэктароў каапгасаў, паставіць работу па разгортваньні сяўбы такім чынам, каб максымальна ўшчыльніць устаноўленыя тэрміны сяўбы і забясьпечыць датэрміновае правядзеньне яе, паставіўшы ў цэнтры ўвагі якасьць апрацоўкі глебы і якаснае правядзеньне сяўбы з тым, каб забясьпечыць максымальную ўраджайнасьць, устанавіўшы цьвёрдыя заданьні па ўраджайнасьці для кожнай культуры і вучастку і ні ў якім разе ня ніжэй норм, устаноўленых папярэднімі пастановамі ЦК і СНК для паасобнай культуры з кожнага га.

4. У сувязі з тым, што ёсьць паасобныя факты недахвату насеньня, а ў радзе выпадкаў загатоўленае насеньне яшчэ не дастаўлена ў каапгасы, а такеама не праведзена выстарчальная ачыстка насеньня і праверка яго на ўсхожасьць, абавязаць дырэктароў каапгасаў:

а) у бліжэйшыя два-тры дні поўнасьцю забясьпечыць нехапаючае насеньне і скончыць дастаўку ў каапгасы ўжо загатоўленага насеньня;

б) яшчэ раз перад самай сяўбой праверыць, ці праведзена выстарчальная ачыстка насеньня і праверка яго якасьці з тым, каб унікнуць засеву нядобраякасным насеньнем, і устанавіць за гэтым суровы кантроль і пэрсанальную адказнасьць.

5. Адзначаючы, што пасьпяховае правядзеньне сяўбы гародніх культур і забесьпячэньне максымальнай ураджайнасьці патрабуе хуткага і своечасовага правядзеньня пасадкі і сяўбы гэтых культур і што гэта патрабуе прыцягненьня масавай рабочай сілы,—абавязаць трыкутнікі прадпрыемстваў і каапгасаў арганізаваць шырокі ўдзел рабочых і членаў іх сем'яў у пасеўных работах, праводзячы папярэднюю іх падрыхтоўку, стварыўшы неабходныя ўмовы па рацыянальным скарыстаньні іх у часе работы і зацікавіўшы іх аплатай натурай у адпаведнасьці з прадукцыйнасьцю працы і вынікамі ўраджайнасьці.

6. СНК і ЦК абавязваюць Белкаапсаюз, трыкутнікі прадпрыемстваў і каапгасаў наладзіць апэрацыйнае, канкрэтнае кіраўніцтва сяўбой у прыгарадных гаспадарках, асабіста сачыць за правядзеньнем сяўбы, аказваючы рэальную дапамогу каапгасам у пасьпяховым правядзеньні сяўбы ў адпаведнасьці з дырэктывамі ЦК і СНК.

7. Абавязаць ГК, гарпрафсаветы, гарсаветы, трыкутнікі прадпрыемстваў і каапгасаў, на падставе дырэктыў ЦК, разгарнуць вакол пытаньняў правядзеньня сяўбы шырокую партыйна-масавую і палітычна-растлумачальную работу сярод рабочых прадпрыемстваў і каапгасаў з тым, каб на падставе сацспаборніцтва і ўдарніцтва мабілізаваць масы на ліквідацыю наяўных яшчэ зараз вялікіх недахопаў і прарываў і забясьпечыць пасьпяховае правядзеньне сяўбы і максымальнае ўзьняцце ўраджайнасьці.

8. Вылучыць у якасьці ўпаўнаважаных ЦК і ЦСПСБ па правядзеньні сяўбы ў прыгарадных гаспадарках па гарадох: Гомель—Эпштэйна, Віцебск—Бе-

леньката, Магілеў—Шапіра, Бабруйск—Левіна, Барысаў—Рыкліна, Рэчыца—Бабкова, Ворша—Куксевіча, Мазыр—Галавача, Полацк—Блюмкіна.

Прапанаваць ГК КП(б)Б на час сяўбы вызваліць паказаных таварышоў ад іншых работ з тым, каб пераключыць іх на работу па забесьпячэньні поўнага правядзеньня сяўбы ў прыгарадных гаспадарках на падставе дырэктыў ЦК.

Даручыць т. Рыскіну зацьвердзіць сьпіс упаўнаважаных ЦК і ЦСПСБ па больш рашаючых буйных каапгасах.

Прасіць ЦКК-РСІ ўстанавіць сыстэматычны апэрацыйны нагляд за ходам сяўбы ў прыгарадных гаспадарках.

## Аб уцягненьні жанчын-калгасьніц у падрыхтоўку і правядзеньне веснавой сяўбы

**Пастанова ЦК і СНК БССР па дакладах Пухавіцкага і Дрысенскага РК КП(б)Б**

1. Адзначыць, што ў Дрысенскім і асабліва ў Пухавіцкім раёнах з боку партыйных, савецкіх арганізацый наглядаецца недаацэнка ролі жанчын у справе падрыхтоўкі і правядзеньня веснавой сяўбы, неахайныя адносіны да справы вылучэньня іх на кіруючую калгасную работу і да культурна-бытавога абслугоўваньня калгасьніц.

Так па раду калгасаў („Усходняя Зара“—Дрыса, „Асоавіяхім“ і „Калініна“ —Пухавіцкі раён) жанчыны калгасьніцы зусім ня ўцягнуты ў пастаянныя палявыя вытворчыя брыгады і ў большасьці скарыстоўваюцца на другарадных работах. Есьць выпадкі арганізацый асобных жаночых брыгад („Чырвоны транспартнік“—Пухавіцкі раён).

Зусім нездавальняючай зьяўляецца справа вылучэньня калгасьніц брыгадзірамі, асабліва ў паляводчых брыгадах (у Дрысенскім раёне ў 270 брыгадах—жанчын-брыгадзіраў 6 чалавек, у Пухавіцкім—5).

Няма ні аднэй жанчыны—старшыні калгасу, і ні адна ня была падрыхтавана на курсах старшынь калгасаў. Нездавальняючае кіраўніцтва з боку партыйных і савецкіх арганізацый у справе адкрыцьця летніх ясьляў і пляцовак.

2. ЦК і СНК разглядаюць такое становішча, як недапушчальнае ігнараваньне з боку РК КП(б)Б дырэктыў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб уцягненьні калгасьніц і аднаасобніц —бядьячак і серадьячак у падрыхтоўку і правядзеньне веснавой сяўбы і вылучэньне жанчын на кіруючую калгасную работу. Прапанаваць Пухавіцкаму і Дрысенскаму РК КП(б)Б забясьпечыць правільную расстаноўку і поўнае скарыстаньне жаночай сілы ў калгасах у часе веснавой сяўбы, праполачнай і ўборачнай кампаній.

Адзначаючы, што факты, выкрытыя ў Пухавіцкім раёне лішні раз сьведчаць аб невыстарчальнай увазе з боку раённых арганізацый да справы вылучэньня калгасьніц, абавязаць пэрсанальна тав. Тарасава ў час веснавой сяўбы гэтага году стварыць сапраўдны пералом у гэтай справе.

3. Прапанаваць Пухавіцкаму і Дрысенскаму РК неадкладна праверыць ход падрыхтоўкі і арганізацыі дзіцячых устаноў па калгасах і саўгасах, патрабаваўшы адказнасьці за гэту справу ад РВК, райаховы здароўя, райана і райза. Аслабаніць работнікаў райаховы здароўя на час веснавой сяўбы ад іншых нагрузак з тым, каб забясьпечыць сваечасовае адкрыцьцё прадугледжаных плянах бытавых устаноў у калгасах.

Лічыць, што галоўнай работай жансэктару ЦК на час веснавой кампаніі зьяўляецца дапамога раёнам у справе арганізацыі калгасьніц.

4. Прапанаваць РК КП(б)Б даць указаньні ячэйкам і ўпаўнаважаным па сельсаветах аб неабходнасьці выпраўленьня скажэньняў, якія дапускаюцца ў радзе калгасаў пры арганізацыі пастаянных вытворчых брыгад (арганізацыя асобных мужчынскіх і жаночых брыгад). Правесьці праверку ўцягненьня калгасьніц у пастаянныя паляводчыя брыга-

ды і выкананьня дырэктыў ЦК аб вылучэньні лепшых калгасьніц-ударніц брыгадзірамі, прадугледзеўшы, у першую чаргу, вылучэньне лепшых ударніц-калгасьніц у паляводчых брыгадах аратымі, конюхамі, машыністамі, а таксама і ў якасьці брыгадзіраў паляводчых брыгад.

Улічваючы надзвычай дрэннае становішча са справай вылучэньня жанчын старшынямі калгасаў, прапанаваць РК правесьці ў пэрыяд міжпапар'я спэцыяльныя курсы падрыхтоўкі лепшых калгасьніц-ударніц старшынямі калгасаў з тым, каб забясьпечыць вылучэньне ня менш 4—5 жанчын у кожным раёне старшынямі калгасаў на працягу да 1-га жніўня 1933 году. Абавязаць Наркамзем, пэрсанальна т. Кудзельскага на справе правесьці вызначаны плян падрыхтоўкі кадраў калгасьніц у сельскай гаспадарцы.

5. Асаблівую ўвагу ў працы сярод жанчын РК і ячэйкі павінны зьвярнуць на работу дэлегацкіх сходаў, на перанясеньня работы з дэлегаткамі ў калгасныя палявыя вытворчыя брыгады з тым, каб калгасьніцы-дэлегаткі былі сапраўднымі застрэльшчыкамі разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў правядзеньні веснавой сяўбы, прапалачнай і ўборачнай кампаніяй, сапраўднай апорай партячэек у рабоце сярод калгасьніц і аднаасобніц бяднячак і сераднячак, у барацьбе за павышэньне ўраджайнасьці і арганізацыйна-гаспадарчае і палітычнае ўмацаваньне калгасаў.

# Аб становішчы завозу мінэральных ўгнаеньняў

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР

Заслухаўшы даклад Белсельгасснабу аб становішчы завозу мінэральных угнаеньняў у БССР, ЦК і СНК канстатуюць:

1. Па становішчу на 13/IV г. г. завоз праходзіць нездавальняюча: завезена ўсяго 40922 тоны, альбо 67,5 проц.

2. Адзначыць, што адгрузка дрэнна праходзіць: фосфарнай мукі па Крычаўскаму і Полпінскаму заводам (54 проц. і 56,8 проц.) і па сільвініту па Салікамскаму заводу 46,8 проц.

3. Пастанова СНК БССР ад 21/III-33 г. аб пакрыцьці запазычанасьці заводам на 1/IV-33 г. ня выканана. Не пакрыта запазычанасьць у суме 103565 руб.

Акрамя гэтага, запазычанасьць трэстаў і МТС Белсельгасснабу за адгружаныя мінугнаеньні на 10/IV-33 г. складае 52314 руб., у сувязі з чым маецца пагроза спыненьня адгрузкі мінугнаеньняў.

Выходзячы з гэтага ЦК і СНК пастанаўляюць:

1. Прапанаваць НКЗ БССР дабіцца перад Саюзнаркамземам і Наркамцяжпромам Саюзу поўнай адгрузкі мінугнаеньняў для БССР у межах зацьверджанага НКЗ Саюзу пляну, паведаміўшы НКЗ Саюзу назвы заводаў, якія ня выконваюць пляну і адгрузкі мінугнаеньняў.

2. Прапанаваць заводам зрабіць адгрузку ў першую чаргу ільнаводным і гароднінным МТС. Тэрмін адгрузкі з заводаў па веснавых нарадах працягнуць да 25/IV.

3. Прапанаваць тав. Амбражунасу забясьпечыць выкананьне праграмы выпрабу фасфарытнай мукі на Крычаўскім заводзе і адгрузіць яе поўнасьцю і ў паказаны ў пастанове СНК БССР тэрмін да веснавой пасеўкампаніі г. г.

4. Абавязаць Трактарацэнтры, трэсты Наркамсаўгасаў, Наркамзем БССР пад адказнасьць іх кіраўнікоў утварыць пагашэньне запазычанасьці у 2-хдзённы тэрмін, а Белсельгасснабу—да 25 красавіка далажыць Цэнтрапасеўкому аб неплацельшчыках.

5. У сувязі з поўным зрывам вывазкі адкідаў вапны па Добрушскай фабрыцы,—адклікаць ўпаўнаважанага т. Матусевіча, які ня справіўся з гэтай працай.

Для паскораньня адгрузкі і вывазкі вапны ў раёны, лічыць неабходным прыцягнуць на гэтую працу калгасьнікаў з тых раёнаў, куды гэтая вапна завозіцца. Даручыць т. т. Рэвінскаму і Жданаву распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па арганізацыі гэтай справы.

Гэтую пастанову апублікаваць у друку.

# Інструкцыя Наркампрацы і Наркамзему Саюзу ССР ад 17 сакавіка 1933 г. аб парадку адыходніцтва з калгасаў

1. Калі калгасьнік пашоў на работу па дагаворы з гаспадарчым органам да атрыманьня на месцы закону 3-га сакавіка 1933 г. аб парадку адыходніцтва з калгасаў, дык ён абавязан не пазьней 15 чэрвеня 1933 г. даць праўленьню калгасу даведку ад прадпрыемства, дзе ён працуе.

Заўвага: Па сканчэньні тэрміну дагавору з прадпрыемствам калгасьнік можа аднавіць дагавор на новы тэрмін, аб чым таксама даецца даведка праўленьню калгасу.

2. У даведцы павінны быць указаны:
а) прозьвішча, імя і імя па бацьку калгасьніка;
б) назва і месцазнаходжаньне прадпрыемства, дзе ён працуе;
в) указаньне спэцыяльнасьці, па якой ён працуе;
в) тэрмін, на які заключан дагавор.

3. Даведку пасылае калгасьнік па пошце заказным лістом.

4. Праўленьне калгасу абавязана даведку зарэгістраваць, і яна мае права адклікаць калгасьніка з работы на прадпрыемстве.

5. У далейшым калгасьнікі, якія адыходзяць на работу, абавязаны перад адыходам прадставіць дагавор з прадпрыемствам у праўленьне калгасу для рэгістрацыі.

6. Праўленьне калгасу абавязана зарэгістрыраваць дагавор у трохдзенны тэрмін.

7. Рэгістрацыя ў праўленьні калгасу даведак ад прадпрыемства (параграф 1-ы) і дагавораў (пар. 5-ы) робіцца спосабам запісу ў асобны сшытак ці кнігу: а) прозьвішча, імя і імя па бацьку калгасьніка; б) назвы і месцазнаходжаньне прадпрыемства, дзе ён працуе, ці зьбіраецца працаваць; в) спэцыяльнасьці; г) тэрміну, на які заключан дагавор.

Пры гэтым на дагаворы, які прадстаўляецца для рэгістрацыі (пар. 5) робіцца надпіс: „зарэгістраван у праўленьні такога-та калгасу, такога-та чысла“, подпіс старшыні праўленьня і прыкладаецца пячатка калгасу ці сельсавету.

Народны Камісар Працы СССР
**А. Ціхон**

Нам. Нар. Кам. Земляробства
Саюзу ССР **А. Муралаў**

# Рэдактарам раённых газэт БССР

Выключна вялікую ролю ў справе мабілізацыі шырокіх мас на лепшае абслугоўваньне спажывецкай каапэрацыяй веснавой сяўбы заклікан адыграць абвешчаны газэтай „Зьвязда“, прэзыдыумам Белкаапсаюзу і ЦП Саюзу РК і Г. конкурс сельспажыўтаварыстваў на лепшае абслугоўваньне веснавой сяўбы.

Усе раённыя газэты БССР павінны неадкладна актыўна ўключыцца ў конкурс.

Між тым адсутнасьць у значнай частцы раённых газэт матар'ялаў аб ходзе конкурсу і наогул аб рабоце спажыўкаапэрацыі па абслугоўваньні веснавой сяўбы гаворыць за тое, што пераважная частка раённых газэт ня толькі не ўзначалілі работы па разгортваньні конкурсу нізавым друкам, але і самі нічога канкрэтнага не зрабілі па ўключэньні ў правядзеньне гэтай работы.

Улічваючы важнае значэньне пасьпяховага правядзеньня гэтага конкурсу, вам неабходна зараз-жа ў адпаведнасьці з тымі задачамі, якія пастаўлены ў перадавым артыкуле „Зьвязды“ „Работу спажыўкаапэрацыі—на службу веснавой сяўбы“ (ад 9 красавіка), уключыцца ў конкурс і разгарнуць на старонках раённых газэт і нізавога друку паказ работы сельскай каапэрацыі па абслугоўваньні веснавой пасеўнай кампаніі.

Заг. Культпропам ЦК КП(б)Б
**Ляўкоў**

Заг. Сэктарам Друку Культпропу
ЦК КП(б)Б **Курцік**

## Скончыць кантрактацыю ільну і канапель да 25 красавіка

# Загад № 66 па Беларускай Рэспубліканскай канторы Загатлён

**ад 16 красавіка 1933 г.**

Кіраўніцтва Беларускай Рэспубліканскай Канторы „Загатлён“ са здавальненьнем адзначае, што пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый загадчыкі аддзяленьняў Загатлён: Дрысенскага— тав. Казлоўскі, Полацкага—тав. Цішкоў, Сураскага—тав. Ігнатаў і Горацкага тав. Конюхаў правільна зразумелі палітычную і гаспадарчую важнасьць кантрактацыі ільну і канапель, па-бальшавіцку паставілі апэрацыйнае кіраўніцтва, па-дзелавому разгарнулі сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж сабой, правялі вялікую масава-растлумачальную работу сярод калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў, у выніку чаго памянёныя раёны выканалі пляны кантрактацыі ільну і канапель на 14 красавіка 1933 г. на 100 проц., г. зн. амаль што за два тыдні раней вызначанага тэрміну.

Выходзячы з гэтага загадваю:

1. Адзначаючы выключную бальшавіцкую дзейнасьць, распарадзіцельнасьць і ўмелае кіраўніцтва справай кантрактацыі ільну і канапель з боку загадчыкаў аддзяленьняў Загатлён: Дрысенскага тав. Казлоўскага, Полацкага—тав. Цішкова, Сураскага — тав. Ігнатава, Горацкага—тав. Конюхава прэміяваць іх грашыма па 200 руб. кожнага.

2. Адпусьціць Дрысенскаму, Полацкаму, Сураскаму і Горацкаму раённым аддзяленьням Загатлён па 800 руб. кожнаму для прэміяваньня старшынь сельсаветаў і калгасаў, брыгадзіраў і ўпаўнаважаных, якія сапраўды па-бальшавіцку разгарнулі масавую работу, мабілізавалі актыў і сваёй ударнай работай дабіліся на сваіх вучастках найлепшых вынікаў у датэрміновым сканчэньні кантрактацыі ільну і канапель.

3. Адзначыць, што калгасьнікі і працоўныя аднаасобнікі Дрысенскага, Полацкага, Сураскага і Горацкага раёнаў добра ўсьвядомілі і зразумелі дырэктывы партыі і ўраду па разьвіцьці тэхнічных культур, на справе паказалі добрасумленныя і сьвядомыя адносіны да справы разьвіцьця ільнаводзтва, закантрактаваўшы датэрмінова для здачы (продажу) дзяржаве прадукцыі ільну і канапель ураджаю 1933 г. А пагэтаму ў адзнаку добрасумленных і сьвядомых адносін калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў Дрысенскага, Полацкага, Горацкага і Сураскага раёнаў да кантрактацыі ільну і канапель, выдаць зараз-жа калгасам і працоўным аднаасобнікам хлеб авансам у лік будучых загатовак 1933 году: Дрысенскаму—1.271,5 цэнтн., Полацкаму—980 цэнтн., Сураскаму—1.182 цэнтн. і Горацкаму—1.625 цэнтн., а таксама зараз-жа адпусьціць і выдаць гэтым раёнам за лік адстаючых па кантрактацыі раёнаў лепшы асартымэнт прамтавараў (галёшы, абутак, хлапчатка, хусткі і інш.). Дрысенскаму раёну на суму 88.800 руб., Полацкаму—56.400 руб., Сураскаму — 82.300 і Горацкаму — 107.100 руб. Авансы хлеба і прамтавары выдаць у першую чаргу тым калгасам і працоўным аднаасобнікам, якія на справе ўжо зараз прыступілі да рэалізацыі абавязацельстваў прынятых па дагавору аб кантрактацыі.

4. Кіраўніцтва Беларускай Рэспубліканскай Канторы Загатлён спадзяецца, што калгасьнікі і працоўныя аднаасобнікі — беднякі і серадзнякі пакажуць бальшавіцкую барацьбу за лён у час сяўбы, праполкі, уборкі, апрацоўкі і

загатоўкі, здаўшы дзяржаве ў тэрмін добраякасную прадукцыю ільнавалакна ня ніжэй № 8 і па трасьце ня ніжэй № 1,5.

5. Кіраўніцтва Беларускай Рэспубліканскай Канторы Загатлён са здавальненьнем адзначае ўзорнае бальшавіцкае кіраўніцтва і практычную дапамогу ў справе контрактацыі ільну і канапель с боку Дрысенскага, Полацкага, Сураскага і Горацкага РК КП(б)Б і РВК і спадзяецца, што яны сваім правільным бальшавіцкім кіраўніцтвам забясьпечаць і пасьпяховае правядзеньне сяўбы, прапалкі, уборкі, апрацоўкі і здачы (продажу) дзяржаве ільну і канапель працоўнымі калгасаў і аднаасобнікамі—беднякамі і серадднякамі сваіх раёнаў.

6. Кіраўніцтва Беларускай Рэспубліканскай Канторы Загатлён ганьбіць работу па контрактацыі Чавускага, Магілеўскага, Бабруйскага, Мазырскага, Рэчыцкага і Рагачоўскага аддзяленьняў Загатлён і ўпаўнаважаных Загатлён па Бялыніцкаму, Жлобінскаму, Пухавіцкаму, Уваравіцкаму, Церахоўскаму, Чырвонапольскаму, Клімавіцкаму, Быхаўскаму, Веткаўскаму, Кармянскаму і Хойніцкаму раёнах, якія законтрактавалі ўсяго ад 1 да 20 проц., чым цягнуць уніз увесь рэспубліканскі плян.

Белзагатлён прапануе кіраўнікам раённых кантор „Загатлён" па прыкладу Полацкага, Дрысенскага, Сураскага і Горацкага раёнаў разгарнуць бальшавіцкую работу і закончыць контрактацыю ільну і канапель ва што-б там ні стала да 25 красавіка 1933 году.

Кіраўнік Беларускай
Канторы Загатлён
**Вайковіч.**

# Пра контрактацыю гародніны ўраджаю 1933 г.

## Пастанова Эканамічнага Савету БССР

У адпаведнасьці з пастановай Савету Працы і Абароны за 11 сакавіка 1933 году „Пра контрактацыю гародніны ўраджаю 1933 г." („Известия ЦИК СССР і ВЦИК" № 70 за 12 сакавіка 1933 г.) Эканамічны Савет БССР пастанаўляе:

1. Для забесьпячэньня выкананьня дзяржаўнага пляну загатовак гародніны ўраджаю 1933 г. у колькасьці 59.500 тон захаваць ў 1933 г. існуючую дагаворную (контрактацыйную) сыстэму загатовак гародніны.

Зацьвердзіць плян загатоўкі гародніны па контрактацыі ў колькасьці 56 тыс. тон, давёўшы яго да калгасу і вёскі. Плян контрактацыі гародніны разьмеркаваць па культурах і сэктарох наступным чынам:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Капуста—усяго | 29,4 т. т., | з іх у калгасах | 23,4 т. т., | у аднаас. | 6,0 | т. т. |
| Цыбуля „ | 2,0 | „ „ „ | „ 1,0 | „ | „ 1,0 | „ |
| Буракі „ | 8,0 | „ „ „ | „ 8,0 | „ | „ — | „ |
| Морква „ | 3,5 | „ „ „ | „ 3,5 | „ | „ — | „ |
| Бручка „ | 1,5 | „ „ „ | „ 1,5 | „ | „ — | „ |
| Гуркі „ | 9,0 | „ „ „ | „ 9,0 | „ | „ — | „ |
| Памідоры „ | 2,0 | „ „ „ | „ 2,0 | „ | „ — | „ |
| Разам „ | 55,4 | „ „ „ | „ 48,4 | „ | „ 7,0 | „ |

Зацьвердзіць паданы ўпаўкамзагатовак праект разьмеркаваньня гародніны па раёнах. Абавязаць упаўкамзагатовак СНК па БССР і Народны Камісарыят Земляробства на працягу 2 дзён разьмеркаваць раённы плян па сэктарох.

Абавязаць упаўнаважанага камітэту загатовак і загатоўчыя арганізацыі не пазьней 25 сакавіка 1933 году спусьціць раёнам па культурах і сэктарох раённыя пляны контрактацыі.

3. Устанавіць, што ў контрактацыйных дагаварох абавязацельствы пасеўшчыкаў па сяўбе гародніны вызначаюцца колькасьцю пастаўляемай гародніны, але разам з гэтым у дагаворы

пасеўшчык абавязваецца засеяць гароднінай пэўную плошчу лепшай і добра апрацаванай зямлі, якая-б забясьпечыла здачу паказанай у дагаворы колькасьці гародніны.

Даручыць упаўнаважанаму камітэту загатовак СНК і Народнаму Камісарыяту Земляробства ўстанавіць гранічныя нормы здачы гародніны з гэктара з плошчы пасеву па раёнах.

4. Устанавіць, што кантрактацыя гародніны праводзіцца непасрэдна асноўнымі загатоўшчыкамі (Белплодгародніна і Белкаплодагароднiна) і дапушчанымі да загатовак плодагароднімі прадпрыемствамі ў калгасах, калгасьнікаў і аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. У кулацкіх гаспадарках гародніна не кантрактуецца. Сельсаветы даюць ім цьвёрдыя заданьні па здачы гародніны.

Катэгарычна забараніць замену дагавароў кантрактацыі пратаколамі агульных сходаў грамадзян, падпіснымі лістамі і іншымі падобнымі ім дакумантамі, якімі не ўстанаўляецца прыняцьце кантрактацыйных абавязацельстваў самімі гаспадаркамі, на якіх гэтыя абавязацельствы пашыраюцца.

5. Дазволіць асноўным загатоўшчыкам у адведзеных ім раёнах прыцягнуць да правядзеньня кантрактацыі гародніны сваіх важнейшых атрымальнікаў гародніны ў межах іх плянаў.

6. Асноўныя загатоўшчыкі і атрымальнікі гародніны аказваюць калгасам вытворчую дапамогу (насеньнем, угнаеньнем, транспартам, працоўнай сілай і. г. д.).

7. Для снабжэньня калгасаў, калгасьнікаў і аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, якія спраўна выконваюць свае абавязкі па кантрактацыі, адпусьціць 515 тон хлеба, для правядзеньня авансавай кантрактацыі—205 тыс. руб. і для стымуляваньня—прамтавараў на суму 960 тыс. руб.

Устанавіць, што хлеб, авансаваньне і прамтавары выдаюцца ў першую чаргу для снабжэньня здатчыкаў цыбулі ў таварна-цыбульных раёнах і здатчыкаў гародніны ў прызаводзкіх зонах, сушыльных і квасільна-засолачных пунктах.

Даручыць упаўнаважанаму камітэту загатовак СНК разьмеркаваць хлеб, грошы і прамтавары па раёнах, сэктарох і дыфэрэнцыяваць выдачу хлеба па культурах і сэктарох.

8. Устанавіць наступныя тэрміны выдачы хлеба па дагаварох кантрактацыі: 15 проц. прадугледжаных кантрактацыйным дагаворам выдаюцца па сканчэньні сяўбы, але не пазьней чэрвеня месяца, 15 проц. па сканчэньні праполкі але не пазьней першай паловы жніўня і 70 проц. пасьля фактычнай здачы прадукцыі па дагаварох кантрактацыі.

Грашовыя авансы выдаюцца ў два тэрміны: першы ў разьмеры 35 проц. на прадпасеўную падрыхтоўку пры падпісаньні дагавору і другі ў разьмеры 65 проц. на догляд пасеваў пасьля абмеру фактычнага пасеву ў II квартале.

Прамтавары для стымуляваньня здатчыкаў-кантрактантаў гародніны завозяцца: 45 проц. ў III-м квартале і 55 проц. у IV квартале. Даручыць упаўнаважанаму камітэту таварных фондаў завазімыя прамтавары накіроўваць непасрэдна на склады загатаўляючых арганізацый (Белкаапсадгароднiна і Белсадгароднiна).

9. Абавязаць Белкаапсадгародніну і Белсадгародніну ўстанавіць сапраўдны кантроль і праверку выкананьня пасеўшчыкамі іх абавязацельстваў па засеве гародніны ў разьмерах, якія забясьпечваюць выкананьне дагавароў.

Абавязаць загатоўшчыкаў па сканчэньні сяўбы гародніны зрабіць праверку фактычнага засеву, падаўшы ўпаўнаважанаму камітэту загатовак СНК не пазьней 10 ліпеня 1933 г. зводны матар‘ял па БССР і па асобных раёнах.

10. Устанавіць, што з калгасаў, калгасьнікаў і аднаасобных гаспадарак, якія ня выконваюць абавязацельстваў па дастаўцы гародніны ва ўстаноўленыя кантрактацыйнымі дагаворамі тэрміны,

спаганяецца ў бясспрэчным парадку невыкананая частка абавязацельства натурай і апрача таго няўстойка, прадугледжаная дагаворам.

11. Забараніць калгасам, калгасьнікам і аднаасобным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам гандаль гароднінай у выпадку невыкананьня імі кантрактацыйных абавязацельстваў па здачы (продажы) гародніны ва ўстаноўленыя дагаворамі тэрміны.

12. Прапанаваць раённым выканаўчым камітэтам і загатоўшчыкам не пазьней 1 красавіка 1933 г. распачаць кантрактацыю гародніны, давёўшы плян кантрактацыі да калгасу і вёскі, устанавіўшы канчатковы тэрмін сканчэньня кантрактацыі—15 мая 1933 г.

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў і Эканамічнага Савету БССР **Бэнэк.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнага Савету БССР **Кандыбовіч.**

25 сакавіка 1933 г.

# Зводка аб ходзе сяўбы аўса па раёнах БССР на 23 красавіка 1933 году

| Назва раёнаў | Усяго засеяна гэктараў | | |
|---|---|---|---|
| | Плян | Засеяна | Проц. |
| **Паўночная зона** | | | |
| 1. Вешанковіцкі | 7000 | 27 | 0,4 |
| 2. Дрысенскі | 6000 | 24 | 0,4 |
| 3. Лепельскі | 6000 | 17 | 0,3 |
| 4. Полацкі | 8000 | 144 | 1,8 |
| 5 Расонскі | 4000 | 33 | 0,8 |
| 6. Чашніцкі | 3500 | 18 | 0,5 |
| Разам | | 263 | 0,2 |
| **Цэнтральная зона** | | | |
| 7. Барысаўскі | 10000 | 26 | 0,3 |
| 8. Бягомльскі | 3000 | 191 | 6,4 |
| 9. Заслаўскі | 6000 | 49 | 0,8 |
| 10. Клімавіцкі | 8000 | 24 | 0,3 |
| 11. Крупскі | 8000 | 6 | 0,1 |
| 12. Копыльскі | 8000 | 231 | 2,9 |
| 13. Касьцюковіцкі | 10000 | 46 | 0,5 |
| 14. Клічаўскі | 6000 | 6 | 0,1 |
| 15. Дзяржынскі | 8000 | 248 | 3,1 |
| 16. Лагойскі | 6000 | 22 | 0,4 |
| 17. Менскі | 11000 | 182 | 1,7 |
| 18. Прапойскі | 3900 | 10 | 0,3 |
| 19. Пухавіцкі | 10000 | 37 | 0,4 |
| 20. Смалявіцкі | 9000 | 10 | 0,1 |
| 21. Талачынскі | 12000 | 10 | 0,1 |
| 22. Чавускі | 14000 | 4 | — |
| 23. Чэрыкаўскі | 3000 | 58 | 1,9 |
| 24. Шклоўскі | 13000 | 13 | 0,1 |
| 25. Вузьдзенскі | 4500 | 29 | 0,6 |
| Разам | | 1202 | 0,5 |
| **Паўднёвая зона** | | | |
| 26. Брагінскі | 3200 | 673 | 21,0 |
| 27. Б.-Кашалёўскі | 4800 | 33 | 0,7 |
| 28. Бабруйскі | 12000 | 10 | 0,1 |
| 29. Веткаўскі | 6300 | 140 | 2,2 |
| 30. Глускі | 8400 | 869 | 10,3 |
| 31. Гомельскі | 4400 | 334 | 7,6 |
| 32. Жыткавіцкі | 2400 | 426 | 17,8 |
| 33. Кармянскі | 7200 | 48 | 0,7 |
| 34. Камарынскі | 1250 | 486 | 34,9 |
| 35. Жлобінскі | 6000 | 109 | 1,8 |
| 36 Ельскі | 3000 | 1262 | 38,2 |
| 37. Лоеўскі | 3300 | 597 | 19,9 |
| 38. Любаньскі | 4300 | 383 | 8,9 |
| 39. Лельчыцкі | 1700 | 824 | 48,5 |
| 40. Мазырскі | 6000 | 1548 | 25,8 |
| 41. Нараўлянскі | 3100 | 637 | 20,5 |
| 42. Парыцкі | 5500 | 995 | 18,1 |
| 43. Петрыкаўскі | 4600 | 660 | 14,3 |
| 44. Рагачоўскі | 9500 | 39 | 0,4 |
| 45. Рэчыцкі | 6400 | 371 | 5,8 |
| 46. Слуцкі | 11000 | 1913 | 17,4 |
| 47. Старобінскі | 6100 | 864 | 14,2 |
| 48. Тураўскі | 2000 | 600 | 30,0 |
| 49. Церахоўскі | 6500 | 101 | 1,6 |
| 50. Чачэрскі | 4000 | 36 | 0,9 |
| 51. Чырвонаслабодзкі | 4000 | 98 | 2,5 |
| 52. Чырвонапольскі | 4700 | 2 | — |
| 53. Уваравіцкі | 5500 | 41 | 0,7 |
| 54. Хойніцкі | 4000 | 195 | 4,9 |
| Разам | | 14244 | 9,2 |
| Разам па БССР | | 15709 | 3,1 |

# Зводка аб ходзе ворыва і сяўбы яравых па раёнах БССР на 20|IV-33 г.

| Назва раёнаў | Усяго ўзорана га | Усяго засеяна яравых у га | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Плян | Засеяна | % |
| **Паўночная зона:** | | | | |
| 1. Асьвейскі — — | 1265 | 16000 | 10 | 0,1 |
| 2 Аршанскі — — | 442 | 70000 | 6 | — |
| 3. Бешанковіцкі — | 5604 | 45000 | 64 | 0,1 |
| 4. Віцебскі — — | 2497 | 28000 | — | — |
| 5. Вушацкі — — | 57 | 31900 | 57 | 0,2 |
| 6. Гарадоцкі — — | 1232 | 62700 | 41 | 0,1 |
| 7. Дубровенскі — | 10 | 37000 | 10 | — |
| 8. Дрысенскі — — | 4787 | 37600 | 63 | 0,2 |
| 9. Лёзьнянскі — — | 1644 | 52000 | 90 | 0,2 |
| 10. Лепельскі — — | 5213 | 40200 | 3 | — |
| 11. Полацкі — — | 3079 | 50200 | 165 | 0,3 |
| 12. Расонскі — — | 3808 | 27000 | 15 | 0,1 |
| 13. Суражскі — — | 366 | 21700 | 9 | — |
| 14. Сеньненскі — — | — | 43200 | — | — |
| 15. Сіроцінскі — — | 726 | 41100 | 7 | — |
| 16. Чашніцкі — — | 3911 | 27600 | 40 | 0,1 |
| Разам — | 39841 | 651200 | 580 | 0,1 |
| **Цэнтральная зона:** | | | | |
| 17. Асіповіцкі — — | — | — | — | — |
| 18. Быхаўскі — — | 1539 | 53700 | 21 | — |
| 19. Барысаўскі — — | 3149 | 58700 | 48 | 0,1 |
| 20. Бялыніцкі — — | — | — | — | — |
| 21. Бягомльскі — — | 4619 | 19500 | 278 | 1,4 |
| 22. Барэзінскі — — | — | — | — | — |
| 23. Горацкі — — | 79 | 67300 | 79 | 0,1 |
| 24. Заслаўскі — — | 614 | 25000 | — | — |
| 25. Клімавіцкі — — | 2789 | 47300 | 160 | 0,3 |
| 26. Крупскі — — | 4621 | 41100 | 23 | 0,1 |
| 27. Копыльскі — — | 2659 | 43200 | 228 | 0,5 |
| 28. Касьцюковіцкі — | 225 | 61000 | 225 | 0,4 |
| 29. Клічаўскі — — | 2370 | 31000 | — | — |
| 30. Дзяржынскі — | 1387 | 39100 | 168 | 0,4 |
| 31. Крычаўскі — — | — | — | — | — |
| 32. Лагойскі — — | 341 | 27200 | 32 | 0,1 |
| 33. Магілеўскі — — | — | — | — | — |
| 34. Мсьціслаўскі — | 68 | 53200 | 68 | 0,1 |
| 35. Менскі — — | 555 | 57000 | 198 | 0,3 |
| 36. Прапойскі — — | 1618 | 29000 | 24 | 0,1 |
| 37. Пухавіцкі — — | 1039 | 55200 | 139 | 0,3 |
| 38. Смалявіцкі — — | 1691 | 34700 | — | — |
| 39. Талачынскі — — | 103 | 54000 | 30 | 0,1 |
| 40 Чэрвеньскі — — | 414 | 31200 | — | — |
| 41. Чаўскі — — | 23 | 58100 | 23 | — |
| 42. Чэрыкаўскі — — | 587 | 30700 | 157 | 0,5 |
| 43. Шклоўскі — — | 314 | 60700 | 34 | 0,1 |
| 44. Вузьдзенскі — | 1441 | 24400 | 90 | 0,4 |
| 45. Плешчаніцкі — | 2523 | 24100 | — | — |
| Разам — | 34768 | 1179100 | 2035 | 0,2 |
| **Паўднёвая зона:** | | | | |
| 46. Брагінскі — — | 1854 | 20400 | 1851 | 9,1 |
| 47. Буда-Кашалеўскі — | 274 | 22600 | 274 | 1,2 |
| 48. Бабруйскі — — | 723 | 58000 | — | — |
| 49. Веткаўскі — — | 939 | 86200 | 365 | 1,0 |
| 50. Глускі — — | 2808 | 38500 | 804 | 2,1 |
| 51. Гомельскі — — | 3111 | 25000 | 781 | 3,1 |
| 52. Жыткавіцкі — — | 733 | 11200 | 733 | 6.5 |
| 53 Кармянскі — — | 599 | 34700 | 599 | 1,7 |
| 54. Камарынскі — — | 869 | 11200 | 869 | 7,8 |
| 55. Жлобінскі — — | 2162 | 41100 | 1076 | 2,6 |
| 56. Ельскі — — | 2789 | 18600 | 1674 | 8,5 |
| 57. Лоеўскі — — | 816 | 22200 | 816 | 3,7 |
| 58 Любаньскі — — | 1827 | 21200 | 243 | 1,1 |
| 59. Лельчыцкі — — | 1435 | 14300 | 1435 | 9,9 |
| 60. Мазырскі — — | 2582 | 41000 | 2582 | 6,3 |
| 61. Нараўлянскі — | 1071 | 19100 | 1071 | 5,6 |
| 62 Парыцкі — — | 2414 | 34100 | 2414 | 7,1 |
| 63. Петрыкоўскі — | 1192 | 31700 | 1192 | 3,8 |
| 64. Рагачоўскі — — | 1610 | 46500 | 407 | 0,9 |
| 65. Рачыцкі — — | 566 | 28000 | 566 | 1,5 |
| 66. Слуцкі — — | 8688 | 44000 | 1264 | 2,9 |
| 67. Старобінскі — — | 2566 | 25000 | 1268 | 5,1 |
| 68. Стара-Дарожскі — | 7 | 22000 | 7 | — |
| 69 Тураўскі — — | 1101 | 8800 | 1101 | 12,5 |
| 70. Церахоўскі — — | 288 | 36000 | 288 | 0,8 |
| 71. Чачэрскі — — | 3090 | 21600 | 456 | 2,1 |
| 72. Чырвонаслабодзкі — | 3174 | 19800 | 69 | 0,3 |
| 73. Чырвонапольскі — | 33 | 32000 | 33 | 0,1 |
| 74. Уваравіцкі — — | 3038 | 31200 | 240 | 0,8 |
| 75. Хойніцкі — — | 697 | 23500 | 697 | 1,3 |
| Разам — | 53043 | 849700 | 25075 | 3,0 |
| Усяго па БССР | 127652 | 2680000 | 27690 | 1,0 |

# Адстаючыя раёны па абмену аўса

(па становішчы на 24-IV-33 г.)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Аршанскі | Асіпавіцкі | Асьвейскі | Бешанковіцкі |
| Буда-Кашалёўскі | Быхаўскі | Бягомльскі | Бялыніцкі |
| Віцебскі | Вузьдзенскі | Гарадоцкі | Горацкі |
| Ельскі | Жлобінскі | Капыльскі | Кармянскі |
| Касьцюковіцкі | Клічаўскі | Крычаўскі | Лагойскі |
| Мазырскі | Плешчаніцкі | Прапойскі | Сеньненскі |
| Сіроцінскі | Вушацкі | Чырвонапольскі | Чэрвеньскі |
| Чэрыкаўскі | Шклоўскі | | |

# Раёны, якія адстаюць ў кантрактацыі ільна і канапель

(па становішчы на 20-IV-33 г.)

Па ільнавалакну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Бялыніцкі | Сіроцінскі | Чавускі | Чашніцкі |
| Шклоўскі | Аршанскі | Бабруйскі | Буда-Кашалеўскі |
| Быхаўскі | Бярэзінскі | Веткаўскі | Жлобінскі |
| Кармянскі | Касьцюковіцкі | Клімавіцкі | Магілеўскі |
| Мазырскі | Пухавіцкі | Рагачоўскі | Рэчыцкі |
| Уваравіцкі | Хойніцкі | Цэрахоўскі | |

Па ільнанасеньню:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Бялыніцкі | Чавускі | Чашніцкі | Аршанскі |
| Бабруйскі | Буда-Кашалеўскі | Быхаўскі | Бярэзінскі |
| Веткаўскі | Жлобінскі | Кармянскі | Касьцюковіцкі |
| Клімавіцкі | Магілеўскі | Мазырскі | Пухавіцкі |
| Рагачоўскі | Рэчыцкі | Уваравіцкі | Хойніцкі |
| Цэрахоўскі | | | |

Па насеньню канаплі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Бялыніцкі | Чавускі | Б.-Кашалеўскі | Быхаўскі |
| Бярэзінскі | Жлобінскі | Кармянскі | Магілеўскі |
| Мазырскі | Пухавіцкі | Рагачоўскі | Рэчыцкі |
| Уваравіцкі | Хойніцкі | Цэрахоўскі | Клімавіцкі |

## ЗЬМЕСТ




Друк. Кір. Спраў СНК і ЭКАСА БССР Ул. Галоўлітбелу В. 1787 Тыраж 2500 Зак. 408